ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 9 (2359) 3 сакавіка 1994 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 30 рублёў.



АБАГНАЎШЫ ЧАС, ПАРАЎНЯЎСЯ З НАШЧАДКАМІ

## АГОНЬ САМАЗНІШЧАЛЬНЫ

Беларуская нацыя перажывае Адраджэнне. І сапраўды, быццам бы вяртаецца да народа яго родная мова, новым пакаленням становяцца вядомымі забытыя імёны славутых беларусаў, аднаўляецца культурная спадчына. І ў той самы час... Ці не парадокс гэта: мы нібы падаем у глыбокую яму, бо не цэнім, не цікавімся, не імкнёмся асэнсаваць тое вялікае духоўнае багацце, якім валодаем.

Толькі што ў рэспубліцы адзначалася 80-годдзе вялікага беларускага паэта Аркадзя Куляшова. Здаецца, усё было вытрымана ў рамках адпавядаючага падзеі пратакола: і юбілейныя вечары, і артыкулы ў газетах і часопісах, і перадача па тэлебачанні. Але засталося адчуванне незадаволенасці: штосьці "недадалі", недагаварылі, у нечым абышлі.

У былой савецкай краіне ці не правілам лічылася, што найбольш адметны талент пераадольваў найбольшыя перашкоды. Не ўсё проста і гладка было і ў лёсе Аркадзя Куляшова, не да канца і сёння расчышчаны штучныя завалы, што часам аддаляюць паэта ад яго народа.

Напярэдадні юбілею мы ў рэдакцыі сустрэліся з дачкой пісьменніка **Валянцінай КУЛЯШОВАЙ**. Некалькі гадоў назад яна напісала кнігу "Лясному рэху праўду раскажу..." пра бацьку і найбольш блізкіх яму людзей. У адной гутарцы, нават працягдай, немагчыма ахапіць усяго пра паэта і яго творчасць. Але мы пачулі многа цікавага і дзелімся гэтым з чытачамі.

Валянціна Аркадзьеўна сказала, што па класічнаму сцэнарыю расказ пра бацьку ёй напэўна трэба было б пачаць з яго бацькі і маці, лепш -- з бабулі і дзеда, а яшчэ лепш з больш далёкіх продкаў, бо радавод чалавека -- гэта яго карані. А хіба можа вырасці моцнае дрэва без моцных каранёў?!

**-- Вам, Валянціна Аркадзьеўна, пашанцавала: вы помніце і маці, і бацьку Аркадзя Куляшова і пры жаданні маглі і спытаць, і атрымаць адказ пра свой радавод.**

-- Сапраўды так, але з бабуляй і дзедам мы часта сустракаліся толькі да вайны, калі ўсёй сям'ёй ездзілі адпачываць у Хоцімск, куды пераехалі яго бацькі з роднай бацькавай вёскі Саматэвічы. А пасля вайны толькі аднойчы, у 47-м годзе, былі там усе разам. У далейшым мы часта бывалі ўдваіх з бацькам, бо неяк так здарылася, што я нарадзілася ў горадзе, не мела свайго роднага кутка сярод беларускай прыроды, цягнулася душой да бацькавага. Але ж не гэта галоўнае. Можна мець усе ўмовы, каб даведацца пра штосьці, як потым высветліцца, неабходнае, але не мець свядомасці і не адчуваць патрэбы пытаць.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

ГОСЦЬ РЭДАКЦЫІ

Аляксандр НАДСОН:

## "ДУХОЎНЫМ ШАНТАЖОМ Я НЕ ЗАЙМАЮСЯ"

Першы прыезд Аляксандра Надсона ў Мінск мне запомніўся тым, што давялося папсаваць-такі нервы, каб дамагчыся дазволу ў колішняга ўсемагутнага ЦК КПБ на кароценькую аб'ектыўную інфармацыю пра мэты яго візіту ў Беларусь. Патрабавалі вялізнага разгромнага памфлета!

Адзінаццаты раз, калі ў студзені гэтага года айцец Аляксандр прывёз чарговы груз лекаў і медыцынскага інструменту для нашых клінік, ён выказаў жаданне наведаць рэдакцыю "Голасу Радзімы". Прызнаюся шчыра, мне таксама даўно хацелася пагутарыць з гэтым чалавекам у нязмушанай абстаноўцы, спакойна. Так што нашы памкненні, відаць, супалі.

Дык вось, за кавай і цякла наша бяседа. Апостальскі візітатар для католікаў-беларусаў у свеце і ў адной асобе дырэктар бібліятэкі і музея імя Ф. Скарыны ў Лондане, а цяпер яшчэ і старшыня дабрачыннага камітэта дапамогі дзецям Чарнобыля, Аляксандр Надсон аказаўся надта ж простым і, так бы мовіць, камунікабельным чалавекам.

*-- Айцец Аляксандр, некалькі гадоў назад вы селі ў цягнік у Лондане і рушылі ў Мінск. Якія пачуцці вас апанавалі, здагадацца няцяжка. І вось зноў вы ходзіце па мінскіх вуліцах, ездзіце па Беларусі. Вы, можна сказаць, дома. Адчуваеце сябе спакойна?*

-- Прыязджаю спакойна. Гэта першы раз былі вялікія перажыванні: столькі ж гадоў не быў на Радзіме! Але дзіўна: як толькі стаў на беларускую зямлю, выйшаўшы з цягніка, то адчуванне было такое, быццам ніколі яе і не пакідаў.

Раз за разам пачаў знаёміцца з Беларуссю. Рознае было -- і добрае, і дрэннае, такое, што раніла сэрца. Прыкра было ў першы прыезд, я тады ў Менску практычна не мог гаварыць па-беларуску. Я загаворваў, а мне казалі: "Хто вас вымушае гаварыць па-беларуску?!" Тады амаль што зусім не было беларускамоўнага асяроддзя. Цяпер многае змянілася, але ёсць шмат сумных і проста брыдкіх рэчаў.

Напрыклад, прыязджаю ў аэрапорт, трэба запоўніць валютную дэкларацыю. Гляджу: усё па-расейску. Кажу: не буду запаўняць на гэтай мове. Мне даюць польскую. Пытаюся, дзе беларуская? "Нету". Паколькі я брытанскі падданы, давайце тады на ангельскай мове...

Прычым, гэта не старыя савецкія бланкі, а новыя. Надрукавана: "Республика Беларусь"...

(Заканчэнне на 3-й стар.).

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ДЗЕНЬ АБАРОНЦАЎ АЙЧЫНЫ*



23 лютага зноў было свята. Але ўжо не Дзень Савецкай Арміі, а Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Пасля доўгіх спрэчак "наверсе" менавіта 23 лютага было трансфармавана з савецкага свята ў нацыянальнае. Што крывіць душой: пакаленне, якое перажыло вайну і перамагло, атрымала перамогу і ў бітве за сваё традыцыйнае свята. Яно цяпер нібы адпавядае і тым, хто хацеў бы забыцца на ўсё савецкае. 23 лютага 1944 года быў выдадзены загад групенфюрэра СС фон Готберга аб стварэнні Беларускай краёвай абароны. Так што і ветэраны БКА са "шчырымі падзякамі за аднаўленне гістарычнай справядлівасці асабіста пану Грыбу" і нашаму Вярхоўнаму Савету адзначаюць свой дзень у рэчышчы агульнанацыянальнага свята.

НА ЗДЫМКУ: 23 лютага 1994 года. Урачыстасці з нагоды Дня абаронцаў Айчыны на плошчы Перамогі ў Мінску.

Фота Віктара СТАВЕРА.

*МІЖНАРОДНЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ*

# САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫ, ЯДНАЙЦЕСЯ!

У другой палове лютага ў Мінску адбылася Міжнародная канферэнцыя "Асноўныя пытанні сацыяльнай палітыкі і гаспадарання ў Беларусі і суседніх краінах". Арганізатарамі канферэнцыі былі Фонд братоў Луцкевічаў, Міжнародны інстытут працоўных і сацыяльных адносін (Беларусь), Фонд імя Ф. Эберта (Германія) і Цэнтр імя Улафа Пальме (Швецыя). Здаецца, гэта першая канферэнцыя сацыял-дэмакратаў на беларускай зямлі за апошнія бадай што пяцьдзесят гадоў, і была яна даволі прадстаўнічай. У ёй бралі ўдзел прадстаўнікі Вярхоўнага Савета, розных партый і рухаў, згуртаванняў, рознагаліновых прафсаюзаў, удзельнічала шмат навукоўцаў. На адкрыцці прысутнічаў і былы старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч. Што ж тычыцца ўрада, дык з сямнаццаці запрошаных прадстаўнікоў Саўміна і камітэтаў ніводны не знайшоў часу нават пацікавіцца канферэнцыяй.

Як паведаміў мне старшыня беларускіх сацыял-дэмакратаў спадар Алег Трусаў, такая няўвага з боку ўрада лёгка тлумачыцца: актыўны ўдзел у наладжванні канферэнцыі прымала Грамада, а яна, як вядома, знаходзіцца ў апазіцыі да ўрада. "Гэты факт яшчэ раз пацвярджае, што людзі ўрада не згодны на нейкае рэальнае супрацоўніцтва з апазіцыяй. Горш, што мы не заўсёды знаходзім паразуменне і з іншымі дэмакратамі, якія лічаць, што толькі хрысціянска-дэмакратычны альбо ліберальны шляхі справядлівыя. Вядома, што сацыял-дэмакраты -- адна з састаўных частак гэтай трыяды. Як бачыце, мы знаходзімся пад перапалам як быццам бы з двух бакоў, а таму гэтая канферэнцыя -- вельмі добрая магчымасць для прапагандавання ідэй сацыял-дэмакратыі".

Для дыскусій былі прапанаваны чатыры тэмы: сацыяльная абарона пры пераходзе да рыначнай эканомікі; аб панящці ўласнасці з пункту гледжання сацыял-дэмакратыі; асноўныя накірункі прыватызацыі; менталітэт -- дэмакратыя -- рыначная эканоміка, па якіх выступілі каля 50 удзельнікаў. Сапраўдным урокам сацыял-дэмакратыі на прыкладзе 50-гадовага вопыту Швецыі быў выступ спадара Матса Карлсана, прадстаўніка цэнтра імя Улафа Пальме, саветніка па замежных справах у шведскім парламенце. І гэта была не адзіная цікавая прамова. Шмат думак і слушных прапаноў было выказана па сацыяльнай абароне, прыватызацыі, стэрэатыпах беларускага мыслення, па пераадоленню эканамічнага крызісу і нават пазбаўленню ад такой рысы характару, як "арганізаваная безадказнасць".

Трэба адзначыць, што на канферэнцыю прыехалі амаль што ўсе запрошаныя госці са Швецыі, Германіі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Расіі, большасць якіх выступіла з прамовамі.

Пасля заканчэння канферэнцыі прадстаўнікі сацыял-дэмакратычных партый Беларусі, Германіі, Швецыі, краін Прыбалтыкі і Расіі прынялі заяву аб парушэнні правоў чалавека ў Беларусі ў сувязі з цкаваннем некаторых сяброў страйкавага аргкамітэта і іншых грамадзян Беларусі пасля мітынгу на плошчы Незалежнасці 15 лютага 1994 года.

Таіса БАНДАРЭНКА.

*НА АДРАС СПІКЕРА*

## ВІНШАВАННЕ КЛІНТАНА

Старшыню Вярхоўнага Савета Беларусі Мячэслава Грыба павіншаваў прэзідэнт ЗША Біл Клінтан.

"Паважаны пан Старшыня!

Віншую з выбраннем Вас на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета. Мне было вельмі прыемна пачуць Вашу заяву аб тым, што Беларусь будзе выконваць усе раней заключаныя пагадненні і ўзятыя на сябе абавязацельствы, уключаючы абавязацельствы па ядзернаму раззбраенню. Спадзяюся, што кіруемы Вамі Вярхоўны Савет будзе працягваць прытрымлівацца палітыкі эканамічных і дэмакратычных рэформаў, якую так адстойваў Ваш папярэднік пан Шушкевіч. Мой урад гатовы дапамагчы Вам з правядзеннем гэтых рэформаў.

Шчыра Ваш
Уільям Дж. КЛІНТАН".

*ФЕМІДА*

## АРГАНІЗАТАРЫ МІТЫНГУ АШТРАФАВАНЫ

Адбыўся суд над старшынёй свабоднага прафсаюза работнікаў Мінскага трактарнага завода Вячаславам Козелам, якому інкрымінавалі цэлы букет адміністрацыйных правапарушэнняў: арганізацыю несанкцыяніраванага мітынгу за межамі заводскай тэрыторыі, распаўсюджванне лістовак, якія ўтрымлівалі заклік да звяржэння ўлады, арганізацыю несанкцыяніраванага шэсця да плошчы Незалежнасці 15 лютага.

Суд прызнаў Вячаслава Козела вінаватым у здзяйсненні адміністрацыйных правапарушэнняў і наклаў на яго адміністрацыйнае спагнанне ў выглядзе штрафу -- паўтары тысячы рублёў.

Старшыня саветаў стачачных камітэтаў рэспублікі Мікалай Зімін аштрафаваны судом Маскоўскага раёна на 300 рублёў. "Справа" старшыні свабоднага прафсаюза завода аўтаматычных ліній Паўла Майсіевіча будзе разглядацца ў судзе Партызанскага раёна.

## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

*ПАЛІТЫЧНЫЯ РЭПРЭСІІ*

## СІЛА — ГАЛОЎНЫ АРГУМЕНТ

З заявай у сувязі з рэпрэсіямі супраць лідэраў свабодных прафсаюзаў выступіў выканком Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі. Здарылася тое, пра што даўно папярэджвалі ўсе дэмакратычныя сілы, падкрэсліваецца ў заяве: у краіне пачаліся палітычныя рэпрэсіі. Адбыўся якасны пераварот у эвалюцыі рэжыму, ператварэнне яго ў аўтарытарны. Гэта, лічаць аб'яднаныя дэмакраты, заканамерны вынік апошніх зменаў у кіраўніцтве дзяржавай. Абранне на вышэйшую дзяржаўную пасаду генерала міліцыі не магло не прывесці да зменаў у метадах барацьбы з палітычнай апазіцыяй. Сіла становіцца галоўным аргументам у адказ на абурэнне народа.

*ВІЗІТЫ*



21 лютага адбыўся дзяржаўны візіт у Рэспубліку Беларусь прэм'ер-міністра Латвійскай Рэспублікі Валдыса Біркаўса. Падпісана 8 міждзяржаўных пагадненняў, якія рыхтаваліся паўтара года. В.Біркаўс заявіў, што ў латвійскім заканадаўстве будуць улічаны правы і інтарэсы беларусаў, якія жывуць у Латвіі.

НА ЗДЫМКУ: Старшыня Савета Міністраў Беларусі Вячаслаў КЕБІЧ і прэм'ер-міністр Латвіі Валдыс БІРКАЎС падпісваюць дагаворы.

## Аляксандр НАДСОН:

# "ДУХОЎНЫМ ШАНТАЖОМ Я НЕ ЗАЙМАЮСЯ"

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Але трапляецца і добрае, ёсць зрухі да лепшага. Ёсць! Цяпер у вас выдаецца шмат кніг па гісторыі Беларусі. Можа не ўсе вартасныя, але важна, што яны паяўляюцца. Вельмі важныя і карысныя факсімільныя выданні -- Ластоўскі, напрыклад. Ёсць на чым моладзь выхоўваць. А "Живописную Россию", якая нядаўна выйшла, трэба даць кожнаму дэпутату Вярхоўнага Савета: хай ведае той, хто забыўся, што такое Беларусь. Яна ж у XVIII стагоддзі існавала.

Пра новы падручнік для школаў можна і так і сяк гаварыць, можа, першы блін камяком, але ж канцэпцыя ўжо зусім іншая -- беларуская. Праўда, трэба, каб не толькі вучні, а найперш настаўнікі перавучваліся.

-- *І ўсё ж нас турбуе нейкая замаруджанасць працэсу беларусізацыі, адраджэння. А цяпер дык і зусім, здаецца, на адным месцы топчамся, калі не сказаць, што пасоўваемся назад...*

-- Ведаеце, можна і хутчэй, але каб не нарабіць так, як у Югаславіі... Барані, Божа! Я разумею так: сілай нічога не зробіш. Трэба, каб прайшоў час, каб нарадзіліся людзі, для якіх быць беларусам было б натуральным, людзі без комплексаў. А гэта вымагае аднаго -- цярплівай і настойлівай працы.

Я крышку паездзіў па Беларусі. Безумоўна, уражанне неадназначнае. Але вёска! Якая там захавалася цудоўная мова. Нават на Гомельшчыне. Так чысцютка гавораць: "А-адкуль жа ты, дзеткі, прыехаў?" Так гэта прыемна было чуць, для мяне як музыка. Шмат дзе нашу мову вынішчылі, асабліва па гарадах, а па вёсках яшчэ засталася. Сустракаў я і расейцаў, якія добра гавораць па-нашаму. А ёсць шмат такіх, што не разумеюць. Усе людзі добрыя, але барані, Божа, рабіць гвалт над іншымі. Горш, што свае забыліся мову і стараюцца быць больш расейцамі, чым самі расейцы. Як Мялешка пісаў у XVII стагоддзі: "Не так ляхі, як свая костка, што сабачым мясам абрасла..." Вось нешта падобнае і тут сёння, мне здаецца, адбываецца. Ёсць розныя расейцы, але большасць з іх разумеюць нас, з імі можна гаварыць. Нам трэба самім пазбаўляцца ад сваіх комплексаў, бо гэта ж мы самі ад мовы адракліся.

-- *Цяпер у нас часта і густа можна пачуць не толькі пра згубныя наступствы русіфікацыі. Трывогу ў людзей выклікае і непрыкрытая паланізацыя. Асабліва праз касцёл. Ды, відаць, гэта для вас не навіна?*

-- Але ж! Ідзе імша ў касцёле. Ксёндз -- паляк, прыехаў з Польшчы. Размаўляе і адпраўляе набажэнства па-польску. Безумоўна, гаворыць і па-расейску, а па-беларуску -- ні слова. Дзетак навучыў вітаць польскімі вершамі. Гэтыя дзеткі аж заікаюцца, забываюцца, бачу, ім так цяжка. Навошта ж гэта рабіць? Навошта так здзекавацца? Трэба прапаведаваць слова Божае ў той мове, якую разумеюць людзі. І гэта не палітыка ніякая. Скажам, як бы гэта выглядала, калі б я прыехаў у Польшчу і пачаў там прапаведаваць па-беларуску. Таму, калі мы дамагаемся, каб на Беларусі ці ксяндзы, ці праваслаўныя святары праводзілі сваю дзейнасць на беларускай мове, то гэта -- натуральна.

Вельмі важна, што стала аблягчэнне рэлігіі, стала больш вольным духоўнае жыццё. Асабліва пасля таго, як разваліўся Савецкі Саюз, камуністычная сістэма, калі адкінута камуністычная ідэалогія, ёсць небяспека, што ўтворыцца пустэча ў душы. І можа настаць нешта яшчэ горшае. Многія маладыя прыйшлі ў рэлігію праз націанальнае: найперш усвядомілі сябе беларусамі, а потым сталі ўжо веруючымі, прыйшлі да царквы. Ну што ж -- кожная дарога да Бога добрая. Любоў да Бацькаўшчыны, што можна супраць гэтага сказаць! Каб толькі яна не вылілася ў нешта пачварнае, у такі шавінізм, які нікога і нічога не прызнае. І тут патрэбны моцныя духоўныя асновы.

-- *Айцец Аляксандр, як вам падаецца рэлігійная сітуацыя ў сённяшняй Беларусі?*

-- Сітуацыя, на мой погляд, вельмі складаная. Беларусь не ёсць і ніколі не



была канфесійна аднароднай, як, скажам, Літва, дзе 90 працэнтаў людзей веры каталіцкай. З аднаго боку, кожны мае права вызнаваць тую рэлігію, да якой ляжыць душа, а з другога, для яго павінны быць дарагія перакананні іншага, як для мяне мае. Трэба шанаваць чалавека іншай веры, хаця можна і не падзяляць яго перакананняў.

-- *Для гэтага трэба мець высокую свядомасць і дасканалую душу.*

-- Мець можа і не, бо гэта ідэал, а імкнуцца да дасканаласці трэба. І калі паставіць справу менавіта так, то ўсялякі націск, усялякае насілле ўжо немагчыма. Я магу не пагаджацца, але я не маю права рабіць маральнага ціску. Адзіны спосаб прапаганды маёй веры -- гэта ўласным прыкладам майго жыцця.

-- *Пэўныя колы грамадскасці, прадстаўнікі праваслаўнай канфесіі, вернікі падазраюць вас у тым, што пад выглядам дапамогі дзецям, якія пакутуюць ад чарнобыльскай катастрофы, Аляксандр Надсон імкнецца насадзіць і пашырыць у Беларусі уніяцтва. Прычым мяне здзівіла, што такія абвінавачванні выстаўляюцца не толькі з гэтага боку, а і з таго, з-за мяжы, яны ідуць ад беларусаў, якія жывуць, у прыватнасці, з вамі побач, у Англіі. Думаю, што такая "рэпутацыя" для вас не навіна? Як вы глядзіце на уніяцкую царкву на Беларусі?*

-- Ну што ж, ёсць людзі розных поглядаў. Але ў людзей бываюць адны і тыя ж праблемы, і тады ўсе кідаюцца да Бога. Дык вось, як перад Богам кажу: я ніколі не ўжываю чарнобыльскай дапамогі для прапаганды рэлігіі, я не магу гэтага рабіць. Дапамога павінна быць для ўсіх, нягледзячы на тое, хто яе патрабуе: праваслаўны ці католік, хрышчоны ці нехрышчоны. Не дай Бог, каб злоўжываць сваім становішчам -- адной рукой даваць хвораму таблетку, а другой -- крыж і патрабаваць, каб чалавек прыняў тваю веру. Мне былі, між іншым, прапановы з боку некаторых, каб так рабіць. Я сказаў: духоўным шантажом не займаюся.

Але не хаваю таго, што я уніяцкі святар, я маю свае перакананні, але не маю права накідваць сілаю іх іншым. Гэта не адпавядае маёй душы.

Калі гутарка ідзе пра уніяцкую царкву на Беларусі, то мы ведаем яе гісторыю, але гэта ўжо толькі гісторыя. Калі я прыехаў сюды першы раз, я не ведаў пра уніятаў тут нічога. І вельмі здзівіўся, пачуўшы ад двух маладых людзей, якія сустрэлі мяне і сказалі, што яны прадстаўнікі уніяцкай царквы і хацелі б пагаварыць са мной.

Бачыце, гэта ад іх пайшло, а не ад мяне, я не быў ініцыятарам адраджэння уніяцкай царквы на Беларусі. Але калі ёсць уніяцкі рух і мяне просяць дапамагчы -- гэта мой абавязак. Колькі уніятаў тут, я не ведаю, але пераканаНы: яны маюць права на сваю веру. Не разумею аднаго: калі іх маленькая група, адкуль жа такая вялікая нянавісць да іх? Яны ж не пагражаюць нікому.

-- *Відаць, людзей палохае тое, што з уніяцтва некаторыя народнафронтаўцы хацелі б зрабіць дзяржаўную рэлігію...*

-- Я ўважаю, калі рэлігія дзяржаўная, то гэта не на карысць ані дзяржаве, ані рэлігіі. Гэта ўжо было ў гісторыі многіх дзяржаў. Лепш, каб была свабода рэлігіі, а дзяржава дала магчымасць царкве развівацца. Якая будучыня уніяцкай царквы на Беларусі, толькі Бог ведае. Гэта шмат ад чаго залежыць. А пакуль што царква гэта бедная, няма дзе маліцца, няма святароў. Але ўжо вучацца ў Польшчы, на Украіне, у Італіі. Дзіўлюся, бо гэтыя ж людзі не шукаюць лёгкага жыцця. Парафіі уніяцкія, ведаю, самі растуць. Ёсць у Маладзечне, у Полацку, Гомелі, ёсць у Брэсце суполка. Магчыма, уніяцкая царква ніколі не будзе масавай. Але гэта -- паважны рух, і ён мае права на існаванне. Яны хочуць славіць Бога па-свойму і заставацца беларусамі. Мяне толькі засмучае, што супраць уніятаў часам ужываюць несумленныя аргументы.

-- *Айцец Аляксандр, ужо восьмы раз вы прывозіце да нас лекі, медыцынскае абсталяванне. І людзі ўдзячныя вам за гэту бескарыслівую дапамогу, за ваша чулае сэрца. Хто вам дапамагае ў гэтай нялёгкай справе?*

-- Найбольш ангельцы дапамагаюць. І беларусы таксама, але беларуская дыяспара ў Вялікабрытаніі не такая ўжо і вялікая. Праўда, дасылаюць ахвяраванні і беларусы з Францыі, з Амерыкі. Хто прышле чэк на 5 тысяч фунтаў, а хто толькі на 5. Ахвярных людзей шмат. І гэта дадае нам ахвоты працаваць. Але ад нашых беларусаў я чую і шмат непрыгожага. Звярнуўся да аднаго, а ён і кажа: "Хай тыя, якія зрабілі аварыю, і даюць". Гавару яму: "Пакуль тыя дадуць, дык нашы дзеткі паўміраюць". Ад іншага пачуў: "Не дам, бо ўкрадуць!" А адзін мне проста ў вочы сказаў: "Дзецям бальшавікоў нічога не дам!" Мне гэта было страшэнна балюча. Як гэта можна так сказаць?! Дзецi ж ёсць дзеці. Але не трэба зняверваць, знеахвочвацца, а рабіць, што магчыма.

Час ад чарнобыльскай бяды аддаляецца, і рабіць справу дапамогі нам усё цяжэй і цяжэй. Навонкі з гэтай бяды нябачна -- бышцам нічога і не здарылася. А людзі пацяху жывуць, пацяху хварэюць і пацяху паміраюць. Каб зразумець усё, трэба пабываць тут. Прыязджаем вось у Гомель. Выбягаюць дактары з бальніцы: ці прывезлі капельніцы? Няма ніводнай! І гэта ў анкалагічным аддзяленні! Добра, што я захапіў некалькі штук з сабой. Яны так усцешыліся, бо капельніцы на гвалт патрэбны.

Ніколі не забудуся, як прыехалі ў Хойнікі. А там ужо немцы са сваёй гуманітарнай дапамогай. Мы прывезлі лекі, а яны -- вопратку. Нашы людзі вялі сябе годна. Падыходзіць да мяне мужчына і кажа: "Мы ж не жабракі, без гэтых ласкутоў мы пражывем -- лепш нашых дзетак ратуйце". Гэта мяне ўразіла. Гэта мне так запала ў памяць...

Каб зразумець, што такое чарнобыльская гора, трэба пагля́дзець у вочы гэтым людзям.

-- *Дзякую, айцец Аляксандр, за візіт у родны край. За шчырую размову. І дай вам Бог сіл на добрую справу.*

-- Заставайцеся з Богам!

**Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**

---

НОВЫ ПРАВАПІС:

МАЯ ПРАПАНОВА

# ПІСАЦЬ ГЭТАК, ЯК ВЫМАЎЛЯЕМ!

У БЕЛАРУСКІМ друку з'явіўся вынікoвы дакумент Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы "Давайце параімся".

Ва ўступе гаворыцца, што "камісія завяршыла першы этап работы і выносіць на разгляд грамадскасці свае прапановы па зменах у правапісе"... Далей ва ўступе сказана, што "найбольш спрэчак і разыходжанняў сярод членаў камісіі выклікала пытанне аб правапісе мяккага знака: выпрацаваны аж чатыры варыянты яго пашырэння ў пісьме"... Я ўважліва пазнаёміўся з імі і прыйшоў да высновы, што найбольш прымальным да ўжытку будзе варыянт 1б: а) Мяккі знак пішацца перад суфіксам -ск- у прыметніках і ўласных імёнах, утвораных ад назоўнікаў, якія канчаюцца мяккім н: студзеньскі, Смаргоньскі, чэрвеньскі; б) Мяккі знак пішацца для абазначэння мяккасці зычных з, с, ц, дз перад наступным мяккім зычным: сьнег, лазьня, цьмяны, дзьверы; в) Аднак мяккі знак не пішацца пасля зычных перад мяккімі к, г, х: скінуць, згіб, схіліць; у канцы прыназоўнікаў, якія канчаюцца на з, перад мяккімі зычнымі: без мяне, паўз лес; паміж літарамі, якімі перадаецца падаўжэнне зычных, а таксама паміж прыставачнымі і каранёвымі с, х: палоззе, бясьследны, рассяліць; не пішацца мяккі знак пасля з у словах: ззяць, ззянне.

Зараз аб іншых прапановах. Пад пунктам 2 прапануюцца падпарадкаваць агульнаму правапісу е, я ў першым складзе перад націскам напісанне слоў дзевяты, семнаццаць, дзесяты, васемнаццаць і аднакаранёвых з імі і пісаць дзявяты, дзявятка, дзявяцёра, дзясяты, дзясятнік, дзяцяцёра, сямнаццаць, васямнаццаць, васямнаццаты і г.д. Згодна з гэтым правілам пісаць злучальны галосны е або я ў складаных словах: вогняўстойлівы, зернесушылка... Лічу, што мы павінны пісаць так, як вымаўляем. Ну хто з нас, беларусаў, для якіх родная мова не пусты гук, а жывая крыніца, з якой мы штодзённа чэрпаем словы для размовы з роднымі, блізкімі, сябрамі, кажа дзявяты, дзясяты?! Мы гаворым дзівяты, дзісяты. І калі ўжо няма магчымасці пісаць гэтыя лічэбнікі праз і, то пакінем так, як пішам зараз, г. зн. дзевяты, дзесяты, праз е. А вось у складаных словах, калі ласка, будзем пісаць злучальны галосны я: вогняўстойлівы, зернясушылка, не зважаючы, які гэта склад перад націскным складам. Гэта пазбавіць вучняў, студэнтаў ад лішніх памылак, бо яны будуць ведаць адно правіла: у складаных словах пішам злучальны галосны я. Па пунктах 3, 4, 5 заўваг у мяне няма, поўнасцю згодны з прапановамі камісіі. А вось па пункту 6, дзе "дапускаецца двоякае напісанне ў апошняй частцы некаторых складанаскарочаных слоў", як, напрыклад, селькар і сельскор, мушу сказаць, што я супраць напісання ў гэтым выпадку літар о. Трэба пісаць: селькар, спецкар, аграпрам і г.д. Далей, па пунктах 7, 8, 9 і 10 заўваг няма. А вось па пункту 11 ёсць: я супраць таго, каб пісаць асабовыя ўласныя імёны, улічваючы пажаданні бацькоў і носьбітаў. Пісаць трэба Ілля, Ілліч і не дапускаць Ілья, Ільіч -- гэта не па-беларуску гучыць, няўжо не зразумела членам камісіі?! Тое ж самае і ў дачыненні да напісання імён Жана, Сюзана -- пісаць толькі з адною літарай н, як і Тацяна. Што тычыцца 12 пункта, у якім ідзе гаворка аб правілах пераносу слоў, ніякіх заўваг у мяне няма.

Лічу, што вельмі правільна зрабіла камісія, калі вырашыла вынесці вынікі сваёй работы на абмеркаванне грамадскасці, якая ў сваім штодзённым побыце карыстаецца беларускай моваю.

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг.**

г. Ізяслаў. Украіна.

ГЭЙ, НАВАГРАДЦЫ!

# ДЗЕЛЯ ДАБРА РОДНАГА КРАЮ

"Мой родны кут, як ты мне мілы!" Гэтыя прачулыя радкі з "Новай зямлі" Якуба Коласа са школьнай парты кожнаму з нас, мабыць, запалі ў душу на ўсё жыццё незалежна ад таго, ці наканавана было да скону дзён сваіх пражыць у родным краі, ці воляю лёсу апынуцца ўдалечыні ад яго. А каму ён наймілейшы -- залежыць не ад месца пражывання, а ад натуры, сутнасці чалавека. Ды бясспрэчна, што кожны, будучы асобай і грамадзянінам, павінен не толькі памятаць пра тое месца, дзе нарадзіўся, дзе спрадвеку жылі дзяды-прадзеды, але і дбаць пра дабро свайго краю.

Менавіта пра гэта гаварылі наваградцы, сабраўшыся на першае пасяджэнне мінскай зямляцкай супольнасці. Згадвалася слаўнае мінулае краю, які, як вядома, адыграў у старажытнасці выключную ролю ў станаўленні беларускай дзяржаўнасці, ва ўкладзе яго выхадцаў не толькі ў нацыянальную, але і сусветную, агульначалавечую культуру і навуку.

Менавіта тут, на зямлі Прынямоння, якая ў старажытнасці называлася Літвой і Чорнай Руссю, запачаткавалася адна з наймагутных -- ад Балтыкі да Чорнага мора -- дзяржаў, вядомая сёння пад назвай Вялікае Княства Літоўскае са сталіцай у Навагрудку. Тут быў і асяродак рэлігійны, духоўны, свая незалежная праваслаўная метраполія, дзякуючы чаму і была ўзведзена адна з нямногіх на землях усходніх славян Лаўра, у манастыры якой было напісана славутае Лаўрышаўскае евангелле. Цяпер яно, як бясцэнная рэліквія, захоўваецца ў старажытным кнігазборы горада Кракава.

На Наваградчыне нарадзіўся і да скону жыцця апяваў яе ў творчасці геніяльны паэт Адам Міцкевіч, адсюль родам бацькі класіка французскай літаратуры, паэта Гіёма Апалінэра (Кастравіцкага). Ім, як і будучаму нацыянальнаму герою Чылі, славутаму вучонаму Ігнату Дамейку, давялося эміграваць пасля задушэння паўстання супраць расійскага дэспатызму...

Нямала слаўных сыноў Наваградчыны і сёння жыве ў блізкім і далёкім замежжы. Дзеля прыкладу варта назваць акадэміка Сусветнай акадэміі астранаўтыкі Барыса Кіта (Нямеччына, Франкфурт-на-Майне), старшыню Рады БНР -- беларускага ўрада на эміграцыі, доктара Язэпа Сажыча (ЗША, Дэтройт), яго намесніка, прызнанага аўтарытэта ў лекарскіх справах Барыса Рагулю (Канада, Лондан), рэдактара газеты "Беларус", доктара гісторыі Янку Запрудніка (ЗША, Нью-Йорк), доўгагадовага кіраўніка беларускага зямляцтва і рэдакцыі беларускага радыё Міхася Раецкага (Аўстралія, Пэрт), а таксама кіраўнічку вядомага і па гастролях ў Беларусі фальклорна-этнаграфічнага гурта "Васількі", прафесара хіміі Алу Орса-Рамана (ЗША, Нью-Йорк)...

Спіс гэты можна істотна padоўжыць -- адных мастакоў, выхадцаў з Наваградчыны, набіраецца каля дзесятка. Але справа не ў пераліках, не ў прэзентатыўнасці, а ў тым, каб розум, талент і энергію землякоў зарыентаваць на спрыянне і адраджэнне роднага краю, які, калі шчыра, перажывае цяпер, як і ўся Беларусь, далёка не лепшыя часы: гібеюць, разбураюцца створаныя прашчурамі помнікі дойлідства, нішчыцца унікальная прырода, усё большы крызіс перажывае гаспадарка, амаль ніхто не дбае пра пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы, кволіцца грамадскае і палітычнае жыццё, карацей кажучы, амаль ва ўсіх абсягах адчуваюцца ўпадак і здранцвенне.

Дык ці здолеюць землякі ўдыхнуць у авеяны легендамі і паданнямі родны край новае жыццё?

Дапамагчы ёсць каму. І не толькі ў далёкім і блізкім замежжы. У Мінску, напрыклад, жыве некалькі дзесяткаў тысяч выхадцаў з Наваградчыны, сярод якіх з дзесятак пісьменнікаў, мастакі, спевакі, навукоўцы, вайскоўцы, гаспадарнікі, старшыня адной з камісій Вярхоўнага Савета, старшыня Аграрна-прамысловай партыі, рэктар вышэйшай навучальнай установы, дырэктар акадэмічнага інстытута...

Пасады, заслугі і званні, вядома, істотнае, але не асноўнае, бо галоўнае тут -- адчуванне сыноўняга абавязку перад роднай зямлёй, жаданне зрабіць лепшым жыццё краю і адрадзіць, наколькі гэта магчыма, яго былую славу...

Пра патрэбу згуртавання наваградцаў свету вакол ідэі адраджэння ўпершыню прылюдна выказаў Яўген Лецка на прэзентацыі ў Навагрудку кнігі земляка Міколы Нікалаева "Палата Рукапісная". Заклік да яднання быў прыхільна падтрыманы прысутнымі на сходзе, пасля чаго адбылося пасяджэнне ініцыятыўнай групы, дзе сустаршынямі па скліканню Устаноўчага сходу і Першага з'езда наваградцаў прапанаваны кандыдатуры дырэктаркі Наваградскага гісторыка-краязнаўчага музея Тамары Вяршыцкай і Яўгена Лецкі, які, як вядома, з'яўляецца завадатарам і асноўным арганізатарам стварэння Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Устаноўчы сход, паводле намераў, павінен арганізацыйна, а потым і юрыдычна аформіць статус новай міжнароднай грамадскай арганізацыі, а з'езд -- абмеркаваць і канчаткова вызначыць яе праграму, накірункі і мэту дзейнасці. А да гэтага прапаноўваецца ствараць зямляцкія хаўрусы як у Беларусі, так і за яе межамі. Суполкі такія, дарэчы, ужо зладзілі прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў -- палякі ў суседняй Польшчы і яўрэі ў далёкім Ізраілі, з якімі мяркуецца наладзіць стасункі і працаваць у добрай згодзе.

Практычную дзейнасць мінчукі-наваградцы хочуць ажыццяўляць па кірунках: культурна-асветным, гаспадарча-камерцыйным, экалагічна-аздараўленчым, прававым і палітычным.

Наступнае агульнае пасяджэнне, на якое запрашаюцца не толькі ўраджэнцы Наваградскага раёна ў яго сённяшніх адміністрацыйных межах, але і прылеглых тэрыторый, усе, хто адчувае сябе далучаным да Наваградчыны, старажытнай беларускай зямлі, спадкаемцы колішняга Наваградскага княства і Наваградскага ваяводства.

**Сход адбудзецца ў Доме літаратара (Фрунзе, 5, раён плошчы Перамогі і парку імя Максіма Горкага) 17 сакавіка а 17-й гадзіне. Тэлефоны для кантактаў: 68-79-62 (службовы), 52-44-04 (хатні) -- Аляксей Рагуля. Пісаць на адрас: 220053, Беларусь, Мінск, Даўгінаўскі тракт, 52-9. Яўгену Лецку.**

**Я. ВАРАНЕЦ.**

*НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ*

# ЛЯ ПАДНОЖЖА ПІРАМІД

У 1832 годзе для ўдасканалення ва ўсходніх мовах на Блізкі Усход адправіўся наш зямляк Антоній Мухлінскі (1808--1877). Нарадзіўся ён у маёнтку Саснова пад Навагрудкам, вучыўся ў Маладзечне ў павятовай дваранскай школе. Потым займаўся на факультэце маральна-палітычных навук (г. зн. юрыдычным) і факультэце літаратуры Віленскага універсітэта.

У 1828 годзе А. Мухлінскі паехаў у Пецярбург для падрыхтоўкі да пасады прафесара ўсходніх моў. Ён займаўся ў навучальным аддзяленні ўсходніх моў пры Міністэрстве замежных спраў. Пры гэтым А. Мухлінскі не забываў родных мясцін. Яго першай друкаванай працай быў артыкул: "Святы, забавы, прымхі і забабонныя абрады простага народа ў Навагрудскім павеце Літоўска-Гродзенскай губерні".

Мухлінскі прыехаў у Стамбул як стыпендыят Міністэрства асветы. Ён захапляўся прыгажосцю горада і праліва, над якім узвышалася турэцкая сталіца. "Што можа параўнацца з Басфорам? Цудоўны палоннік Еўропы і Азіі Басфор! Як апісаць тваю чароўную прыгажосць! Каб немаляваць твае цудоўныя воды, прыгажэй за якія, нягледзячы на чалавечыя хітрыкі, нічога не бачу; твае прыгожыя берагі, усеяныя паселішчамі і адзінокімі вёскамі..."

У Стамбуле А. Мухлінскі браў урокі ў турэцкага пісьменніка Хаджы Айні і арабскага паэта Абула Філіпаса, вывучаў новагрэчаскую і армянскую мовы.

У красавіку 1834 года А. Мухлінскі адправіўся ў Смірну, праехаў праз Анатолію ў Левант (як тады называлі Сірыю, Ліван і Палесціну). У Яфе ён гасціў у рускага віцэ-консула А. Шпіцнагеля, свайго таварыша па Віленскаму універсітэту. Час быў неспакойны: сірыйскі паша ваяваў супраць цэнтральнай улады, і еўрапейцам падарожнічаць па краіне было небяспечна. Таму А. Мухлінскі адправіўся ў Егіпет. З Александрыі А. Мухлінскі паехаў у Каір і Медынет-Фаюм, любаваўся пірамідамі і іншымі помнікамі старажытнаегіпецкай архітэктуры ў Луксоры і Фівах.

З Егіпта ён вярнуўся ў Стамбул, а адтуль у Расію.

З 1835 па 1866 год (з перапынкам з 1845 па 1849 год, калі ён працаваў у Варшаве) выкладаў усходнія мовы ў Пецярбургскім універсітэце. Апошнія гады жыцця ён правёў у Варшаве.

У 1868 годзе вучоны зноў пабываў у Палесціне, а ў наступным -- быў ганаровым госцем на адкрыцці Суэцкага канала.

А. Мухлінскі быў адным з ініцыятараў вывучэння культуры ўсходніх нацыянальных меншасцей у Літве і Беларусі. Ён першым даследаваў літаратуру літоўскіх татар, напісаную на беларускай мове арабскім алфавітам -- так званыя "Кітабы", у наш час падрабязна вывучаныя сучасным беларускім даследчыкам А. Антановічам "Беларускія тэксты, пісаныя арабскім пісьмом" (Вільнюс, 1968).

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ.**

НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ, ПРЫСВЕЧАНАЯ 110-й ГАДАВІНЕ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Антона ЛУЦКЕВІЧА

# ЧЫТАЮЧЫ ЖЫВУЮ КНІГУ ЖЫЦЦЯ

Працэс вяртання гістарычнай праўды ідзе складана і цяжка, сустракаючы на сваім шляху многа перашкод. "Як для кожнага народу, так і для нас, гісторыя -- гэта жывая кніга жыцця. Яна дае нам магчымасць пазнаць агульны кірунак развіцця нашага народу, а разам з тым выкрывае прычыны нашага пазнейшага ўпадку -- ажно да апошніх часоў уваскрашэння. А навука мінуўшчыны асабліва патрэбна нам цяпер, калі мы адбудоўваем нашу дзяржаўнасць", -- гэтыя радкі, напісаныя ў 1918 годзе выдатным дзеячам беларускага нацыянальнага руху Антонам Луцкевічам, не страцілі сваёй актуальнасці і сёння. Імя Антона Луцкевіча, як многіх іншых сапраўдных патрыётаў нашай Бацькаўшчыны, доўга замоўчвалася і шальмавалася. 30 студзеня 1994 года споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння А. Луцкевіча. Менавіта гэтай падзеі і была прысвечана навуковая канферэнцыя, праведзеная 11 лютага ў Гродне.

Адкрываючы яе, кандыдат філалагічных навук Аляксей Пяткевіч адзначыў, што месца для правядзення канферэнцыі выбрана не выпадкова. 75 гадоў назад, у канцы 1918 -- пачатку 1919 гадоў, у Гродне дзейнічаў урад БНР на чале з Антонам Луцкевічам. Старшыня фонду братоў І. і А. Луцкевічаў, доктар гістарычных навук Міхась Біч у сваім дакладзе ахарактарызаваў асноўныя этапы беларускага Адраджэння. Ён сказаў, што з дзейнасцю братоў Луцкевічаў, якія заснавалі Беларускую Сацыялістычную грамаду, звязаны значныя поспехі ў развіцці беларускага нацыянальнага руху. Дакладчык адзначыў, што лёс А. Луцкевіча, як і большасці беларускіх дзеячаў таго часу, склаўся трагічна. У 1939 годзе, пасля прыходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь, быў арыштаваны. Па папярэдніх звестках, памёр Антон Луцкевіч у 1946 годзе.

Навуковы супрацоўнік музея гісторыі рэлігіі ў Гродне Вітаўт Руднік падрабязна спыніўся на перыядзе жыцця і дзейнасці Антона Луцкевіча ў Гродне ў канцы 1918 -- пачатку 1919 гадоў, падкрэсліўшы, што галоўнай задачай Рады БНР у гэты перыяд была барацьба супраць польскіх памкненняў захапіць беларускія землі.

Анатоль Сідарэвіч, аўтар дакументальнай аповесці пра А. Луцкевіча, расказаў пра адзін невядомы рэферат, напісаны Луцкевічам, які захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў бібліятэкі Акадэміі навук Літвы. Рэферат, на думку А. Сідарэвіча, быў напісаны прыкладна ў 1914 годзе. Дакумент дазволіць зразумець перадгісторыю стварэння шэрагу беларускіх арганізацый, якія ўзніклі пазней. А. Сідарэвіч адзначыў, што Антон Луцкевіч быў перакананы, што нацыянальную свядомасць нельга аддзяліць ад правоў чалавека і грамадзяніна.

Кандыдат гістарычных навук Віталь Скалабан спыніўся на адным факце, які ў апошні час даволі часта сустракаецца ў гістарычнай навуцы. Размова ідзе аб магчымай паездцы А. Луцкевіча ў лістападзе 1918 года ў Маскву для перамоваў з урадам У. Леніна. Віталь Скалабан адзначыў, што пераканаўчых матэрыялаў аб перамовах няма, інфармацыя даволі хісткая.

Уладзімір Конан гаварыў аб эстэтычных поглядах А. Луцкевіча. Ён адзначыў, што фактычна яго спадчына толькі вывучаецца.

Выступленне Алеся Бяляцкага было прысвечана ўзаемаадносінам Антона Луцкевіча і Максіма Багдановіча. Ён першым заўважыў талент М. Багдановіча як паэта "чыстай красы". Цяпер даследчыкам вядома каля 11 артыкулаў А. Луцкевіча, прысвечаных творчасці М. Багдановіча.

Ірына Багдановіч прадоўжыла характарыстыку А. Луцкевіча як літаратурнага крытыка. Яна адзначыла, што ён выступіў першым бібліёграфам Цёткі, залічваў Цётку да народніцкага натуралістычнага накірунку ў літаратуры.

Аляксей Пяткевіч распавядаў пра гродзенцаў, паплечнікаў А. Луцкевіча: В. Іваноўскага, Ф. Стацкевіча, Яўгена Хлябцэвіча, Міколу Шыла, Макара Касьцевіча (Краўцова) і іншых.

Выступленне Валянціна Мазеца было прысвечана А. Луцкевічу -- выдатнаму палітыку, які дабіваўся аб'яднання ўсіх сіл беларускага народа дзеля дасягнення адной галоўнай мэты -- пабудовы незалежнай Беларускай дзяржавы.

У канцы канферэнцыі яе ўдзельнікі ўнеслі наступныя прапановы: зрабіць навуковыя чытанні памяці Івана і Антона Луцкевічаў рэгулярнымі і праводзіць іх у Гродне; у найбліжэйшы час выдаць зборнік асноўных твораў А. Луцкевіча, маючы на ўвазе выданне пазней збору ягоных твораў; хадайнічаць перад уладамі Гродна аб устанаўленні мемарыяльнай дошкі на будынку, у якім у 1918--1919 гадах жыў і працаваў А. Луцкевіч; апублікаваць матэрыялы гэтай канферэнцыі асобным зборнікам коштам фонду імя Івана і Антона Луцкевічаў.

**Валянцін МАЗЕЦ.**

**Мікола ШЧАГЛОЎ**

# БЕЛАРУСКІ САЛАВЕЙ

## (Міхась ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ)

Сьпявак стаўся ня толькі выканаўцам, а выростае у вобраз песьняра-баяна беларускага народу. Зразумела, што такія выступленьні і атмасфэру каля іх не маглі дараваць песьняру польскія нацыяналістыя. Усё цяжэй і цяжэй робіцца Забэйдзе-Суміцкаму атрымаць дазвол уладаў на канцэрты беларускае песьні. Аднак зусім ня былі "дурнямі" і арганізатары выступленьняў і сам сьпявак. Беларуская песьня "уціскалася" у польскія канцэрты, як быццам выпадкова. Забараняліся публічныя адкрытыя канцэрты, дык ладзіліся зачыненыя выступленьні для студэнтаў беларускім студэнцкім саюзам. Шукаліся самыя розныя "лазы", часам анэкдатычнага прост зьместу, каб толькі даць пачуць беларусам беларускую песьню у выкананьні майстры ейнага Забэйды-Суміцкага. Знайшоўся і яшчэ адзін новы, вельмі добры спосаб для папулярызацыі беларускае песеннасьці і сьпевака. Песьні удалося напяяць на патэфонныя пліткі. Спачатку гэта былі пліткі фірмы "Адэон" -- 1937 год, потым ужо, у часе сучаснае вайны, Бэрлінскага радыё. Дагэтуль на плітках запісана Забэйдаю-Суміцкім каля 40 народных беларускіх песьняў. Пліткі гэтыя карысталіся такою папулярнасьцю, што іх адразу расхваталі. На беларускай вёсцы ня раз былі з імі камічныя выпадкі. "Лявоніха", напрыклад, гралася дзень і ноч, у выніку чаго плітка ня вытрымвала і двух тыдняў, рабілася зусім няздатнаю, і даводзілася шукаць новы экземпляр.

Шмат няўтомнае працы паклаў Забэйда-Суміцкі на складаньне беларускага рэпэртуару. Гэта была яшчэ зусім незакраненая справа. Трэба было ня толькі выкарыстаць тое, што мелася, а было гэтага ня шмат, а і самому запісваць, зьбіраць, прыцягваць да апрацовак песьняў кампазытараў. Сам толькі мастак, Забэйда-Суміцкі клапаціўся аб тым, каб усё, што ён выконвае, было на высокім узроўні. Энергія і настойлівасьць і тут адыгралі каштоўную ролю. Нарэшце, у песьняра назьбіраўся даволі салідны багаж з імёнамі кампазытараў Грэчанінава ("Ляціць сарока", "Конь бяжыць" і інш.), Казуры ("Малады дубочак"), Галкоўскага ("Кукавала зязюля", "Калядка", "Цераз сад вінаград", "Ці ня дудка мая" і інш.), Красева ("Калыханка", "Хлопец пашаньку пахае"), Туранкова ("Як памёрла матулька", "Ой, мама, мама", "Лявоніха" і інш.), Шчаглова ("Ой, арол", "Камар і муха", некаторыя іншыя апрацоўкі). Не забыўся Забэйда-Суміцкі і аб рамансах і урыўках з опэраў на словы беларускіх паэтаў, чым значна пашырыў рэпэртуар і колькасна, і у сэньсе формы і жанру. Тут хочацца асабліва успомніць аб арыі з "Купальля" Туранкова, рамансе "Ці грэх табе любіць" і "Гімн" -- Галкоўскага, песьнях і рамансах Манюшкі, Чуркіна, Аладава. Пішучы гэтыя радкі, бачыўшы прагнасьць Забэйды-Суміцкага да новых рэчаў, аўтар гэтае манаграфіі, прысьвяціў яму невялікі зборнічак рамансаў, з якіх яму найбольш, відаць, падабаюцца: "Учора шчасьце", "Мне пара" і "Зорка Вэнэра".

Параіць з рэпэртуарным голадам, стварыць сабе такі матар'ял, які у згодзе з сэрцам, папаўняць яго новымі рэчамі, асьвяжаць -- задача не малая для сьпевака, гэта палова ягонае удачы, ягонага мастацкага жыцьця. Цяпер Забэйда-Суміцкі, мала таго, што атрымаў імя вядомага усюды вакалістага, але стаўся і сваеасаблівым ваканаўцам, песьняром Беларусі, з якою ён зьвязаны непарыўнымі вузламі крыві.

### РАЗЬДЗЕЛ ПЯТЫ

**Беларускі песенны фальклёр і ягоныя адценьні. — Эмацыянальныя мастацкія прыёмы выкананьня Забэйды-Суміцкага.**

*"Ня я пяю -- народ Божы...*
*Дай мне ў песьні лад прыгожы.*
*...Мне гаворыць вёска, хата,*
*Мне гаворыць сэрца брата,*
*Рад зьбіраю, што пачую,*
*У грудзёх сваіх нашу я".*

**Ян. НЕСЛУХОЎСКІ.**

Беларускі народ належыць да адных з найбольш ахвочых да песьняў народаў. У песьнях ягоных жыве і будзе жыць народная душа. Ёсьць лягенда, аб якой добра гаворыць "Апокрыф" М. Багдановіча. Хрыстос зьвярнуўся раз да беларускага музыкі з пытаньнем, калі народ сьпявае, і музыка адказаў: "-- пяюць на Каляды, на Запусты, на Вялікдзень, на Тройцу, на Яна Купалу, у Пятроўкі, на зажынках і дажынках. Пяюць на радзінах і хрэсьбінах, пяюць, дзіця калыхаючы, і самі дзеці пяюць, гуляючы; пяюць на ігрышчах, на вечарынах і на вясельлі і на хаўтурах, і у бяседзе, і у працы, і у маскалі ідучы, і ува усякай іншай прыгодзе. Так скрозь увесь год пяюць"... І прамовіў Хрыстос: "-- Жывая яшчэ душа у народзе гэтым". Гэтая шматграннасьць песеннага фальклёру надае і разнастайны характар тонусу песеннае насычанасьці, ейнае эмацыянальнае ахварбоўкі, што залежыць, галоўным чынам, ад сваеасаблівых рысаў натуры беларуса. Трагічныя бачыны гісторыі, цяжкая праца нарадзілі шмат песьняў сумных, гаротных, тужлівых (прыгонныя, працоўныя); сіла і моц народу, ягонае змаганьне з навакольным гвалтам, -- стварылі песьні пагрозы, гневу, заклікаў да змаганьня (бунтарскія, жніўныя, батрацкія песьні); прыродны аптымізм народаў даў песьні гумарыстычныя -- і жартоўныя, поўныя сатыры і невычарпальнае весялосьці (жартоўныя гульнёвыя, скочныя песьні). Лірычная-ж шчырая і пяшчотная натура беларуса узьняла на узвышшы лірычную песьню (калыханкі, любоўная лірыка, песьні аб маляўнічай беларускай прыродзе). Гэтыя розныя адценьні часта спалучаюцца у песеннасьці разам і даюць неперадавальныя -- маляўнічыя і калектыўныя хварбы настрояў. Таму, хто бярэцца сьпяваць беларускую песьню, трэба ня толькі гэта ведаць, а і адчуваць сваім сэрцам. Забэйда-Суміцкі -- беларус, узгадаваны сваёю радзімаю. Ён быў і ёсьць з ёю сваімі думкамі і пачуцьцямі, ён сьвядомы, разумны, таленавіты і адданы сын ейны. Каму-ж, як не яму, уславіць Беларусь сваімі песьнямі?

Калі падыходзіць да разгляду таямніцаў чару выкананьня беларускіх песьняў Забэйдай-Суміцкім, дык можна, апусьціўшы пабочныя сродкі, спыніцца на дзьвюх галоўных і асноўных якасьцях: **эмацыянальнай і тэхнічна майстроўскай.**



М. ЗАБЭЙДА-СУМІЦКІ ў Празе.

У эмацыянальным выкананьні мы бачым, як добра знаёмыя (і блізкія) Забэйдзе-Суміцкаму усе адценьні нацыянальных перажываньняў, характару і натуры беларуса, хварбы прыгожае беларускае прыроды. Песьня у вуснах сьпевака то плача, то цешыцца, то звініць, то сьмяецца, то кліча да змаганьня. Колькі суму, напрыклад, у песенным матыве: "Дзе ты кветка, дзе ты доля?", у якім ён разгортвае трагічны вобраз кінутае дзяўчыны! Колькі абрадавае апавядальнасьці у калядной песьні "Ой рана, рана куры запелі", дзе, нібы, дзейнічае нейкі старадаўні калядны валачобнік! Колькі маладое дзёрскасьці у песьні "Ці ня дудка мая?". Колькі задзёрыстасьці, гумару, непасрэднае весялосьці у знанай усім папулярнай "Лявонісе"!

Асабліва чароўна паказвае сябе Забэйда-Суміцкі у лірычнай песьні. Тут ён, бяз сумлеву, стварыў літаральна клясычныя узоры выкананьня. Як шчыра, задушэўна, мякка гучыць у яго "Ой, мама, мама, чаго я плачу", нібы так і пахне дзявочаю "рутаю". Або, як разгортваецца пачуцьцё нечаканае закаханасьці у рамаьнсе "Учора шчасьце", дзе Забэйда-Суміцкі дзівосна перадае "радасьць ціхую, што шчыміць, быццам сум".

Ня менш клясычна выходзяць у сьпевака песьні тонкага гумару і жарту. У характары беларуса яны, блізу што, заўсёды маюць цікавае адценьне-злучанасьць з мяккаю элегічнасьцю. Спалучаць, мяшаць эмацыянальныя хварбы, наагул, "канёк" Забэйды-Суміцкага, ён тут быццам маляр з багатай палетраю. Вось іншы раз пачне паважна апавядальным тонам, трэлі с жальбою:

**"Хлопец пашаньку пахае,**
**ой, ёй, ёй,**
**Яго сошанька крывая,**
**ой, Божа-ж, мой".**

Раптам твар, голас, тэмбр гуку і словы пачынаюць усьміхацца, дражніць:

**"Прыйшла к яму чарнаброва,**
**ой, ёй, ёй.**
**Вазьмі мяне, хлопча, замуж,.**
**ой, Божа-ж мой..."**

І колькі-б у песьні ня было: "ой, ёй, ёй" і "Божа-ж мой" (а іх шмат), яны кажны раз будуць мець новыя хварбы. Іншы раз вы адразу уводзіцеся у камічны настрой ("Вясельле камара і мухі") і ужо толькі потым паказваецца п'яны камар, ягоная сьпячка-калыханка, прабуджэньне і працяг вясельля. Усё зьмяняецца, як на экране. Выключная вобразнасьць, выразьлівасьць інтэрпрэтацыі, -- вось сакрэты эмацыянальнасьці выкананьня Забэйды-Суміцкага. Цяпер аб сакрэтах майстэрства.

Чытаючы папярэднія радкі, мы ужо пазнаёміліся з тою выдатнаю школаю і практыкаю выкананьня, якую атрымаў наш сьпявак. Яны застаюцца з ім назаўсёды. Забэйда-Суміцкі у сваіх гастрольных канцэртах часта знаёміць слухачоў з клясычнаю вакальна-літаратураю, творамі Пэрголезэ, Каччыні, Карысімі, Моцарта, Бэтховэна, Шубэрта, Шумана, Брамса, Грыга, Чайкоўскага і інш., прычым стараецца сьпяваць усё гэта на арыгінальнай для твору мове (італьянскай, нямецкай). Падыход яго да гэтага рэпэртуару выпучаецца выключнаю карэктнасьцю, адданьнем чысьціні твору. Забэйда ведае усе якасьці свайго галасавога апарату, выдатна карыстаючыся ім, ён прымушае гучэць яго, як гнуткі смычковы інструмэнт. Тут, бяз сумлеву, уплывы італьлянскае школы, гэтак званага bell canto (прыгожага сьпяваньня). З другога боку, як-бы дадаючы да чыстага гучэньня вобразнасьць, аддаючы вялікую увагу зьместу твору, музычнаму і тэкставаму, Забэйда-Суміцкі кліча на дапамогу і клясычны стыль расейскае песеннае школы. Гэтакае разумнае спалучэньне дае прыгожыя вынікі.

---

**Дарагі, паважаны Міхась Іванавіч!**

**Ад усёй душы віншую Вас -- выдатнага спевака і цудоўнага Чалавека -- з нейкім там круглым днём нараджэння, жадаю Вам быць паранейшаму маладым, бадзёрым, натхнённа-працавітым і абаяльным. Няхай Вам добра можацца, шчасліва жывецца і звонка спяваецца!**

**Ваш**
**Янка БРЫЛЬ.**
*Мінск, 6-14.VI.1970.*

*Мінск, 16.X.63 г.*

**Дарагі Міхасе!**

**Зноў я са спазненнем адказваю на Твае пісьмо, за што прашу дараваць, бо тут не толькі мая віна. Быў гэты час у камандзіроўцы. Пралятаў нават над Прагай, шкада толькі, што не было часу зноў зайсці на Твае Вінаграды і наведаць Цябе. Амаль два тыдні прабыў у цудоўнай Італіі. Два дні былі ў Рыме, дзень у Фларэнцыі, два дні ў Равэне, у Сан-Марына і ў іншых гарадах і пасёлках. Шкада толькі, што мала часу было на наведванне розных гістарычных мясцін, музеяў, карцінных галерэй, бо праграма наша была запоўнена гутаркамі, сустрэчамі з прадстаўнікамі розных таварыстваў, арганізацый, партый. Вандруючы па Італіі, я часта ўспамінаў: недзе і Ты тут некалі блукаў, спяваў. Нават прыслухоўваўся, думаў, што можа пачую рэха Твайго знаёмага і роднага голасу. Была залатая італьянская восень. Сады атрасалі сваю чырвань, толькі яблыкі палаючымі ліхтарыкамі гарэлі ў сонцы, сям-там зелянела кукуруза і чарнелі квадраты азімай раллі. Толькі перад самым ад'ездам пайшоў дождж, які перашкодзіў больш грунтоўна пазнаёміцца з Міланам. Таму амаль некалькі гадзін правялі на аэрадроме, пакуль афармілі свае дакументы, білеты. Незабыўнае ўражанне пакінуў пералёт праз Альпы, вяршыні якіх, прабіўшы аблокі, ззялі ў сонцы і грозна, і велічна, быццам нейкія дапатопныя жывёліны шчэрылі свае грозныя клыкі, стараючыся дацягнуцца да нашага самалёта. Вярнуўшыся дамоў, паехаў на Нарач. Пераначаваў там, паслухаў, як шуміць наша мора. Думаў наведаць бацькоў, але дарогі сталі гразкімі пасля дажджоў, і я не змог дабрацца да сваёй Пількаўшчыны, дзе сёлета вельмі ўрадзілі антонаўкі.**

**Дарагі Міхале, калі наступным разам прыедзеш да нас, абавязкова наведаем гэтыя цудоўныя нашы нарачанскія мясціны, дзе куды лепш адпачываецца, як на нейкіх праслаўленых курортах. Што да дзяцей, пра якіх Ты пішаш, дык у Цябе іх больш, як у самага мнагадзетнага бацькі. Многіх разбудзіла Твая песня, многія з ёй, як з самай дарагой спадчынай, пайшлі ў свет, у жыццё, успамінаючы Цябе шчырым, добрым словам.**

**Цяпер самае галоўнае -- здароўе. Праўда, многія з хвароб лягчэй лячыць на роднай зямлі, на сваёй печы. Спадзяюся, што, калі зноў стрэнемся, развее вецер з беларускіх шляхоў Твае сумныя думы, якія часам не даюць Табе пакою і ўдзень, і ўночы. Можа патрэбны Табе, Міхале, якія лекі? Пішы. Што да маёй Любоў Андрэеўны, дык яна абвініла ўсіх нас, а ў першую чаргу мяне, што мы не змаглі развесяліць гасцей, што самі болей гаварылі, змушаючы гасцей толькі слухаць. Трэба прызнацца, што яна тут мела рацыю. Я разумею і Твой настрой перад самым выступленнем. Так што Ты, браце, не выгараджвай мяне. Нагрузка ўсе гэтыя дні, якія правёў Ты ў нас, была велізарная. Трэба было нам выкраіць з праграмы дзень--два для поўнага адпачынку ці падарожжа па дарагіх сэрцу мясцінах.**

**Пасылаю Табе, Міхале, два свае апошнія вершыкі.[1]**

**Моцна Цябе ўсе абдымаем і шлем самыя сардэчныя пажаданні здароўя і шчасця ў жыцці.**

**Максім ТАНК.**

[1] Максім Танк пераслаў Забэйдзе-Суміцкаму вершы "...Параненага партызана..." і "Нічога". (Заўвага С.П.).

---

Працяг. Пачатак у № № 5-8.

## АБАГНАЎШЫ ЧАС, ПАРАЎНЯЎСЯ З НАШЧАДКАМІ

# АГОНЬ САМАЗНІШЧАЛЬНЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Мы былі выхаваны так, быццам бы да нас наогул нічога не было. У маім лёсе, напрыклад, вялікую ролю адыграла Балгарыя, дзе я, выйшаўшы замуж, даволі доўга жыла. Там дзеці ніколі не адчувалі сябе бязроднымі, бо папярэднія пакаленні працуюць на наступныя, забяспечваючы ім не толькі эканамічныя ўмовы для існавання, але і духоўныя, абуджаючы іх нацыянальную самасвядомасць.

Менавіта ў Балгарыі зразумела, што і я маю і свой народ, і сваю радзіму, і сваю культуру. Калі я вярнулася ў Беларусь і пачала распытваць блізкіх пра свой радавод, найбольш дасведчаным у гэтых пытаннях аказаўся мой дзед, Аляксандр Мікалаевіч Куляшоў. У мяне ж з тых часоў засталася мара праехаць па Магілёўшчыне, па ўсіх тых мясцінах, дзе жылі бацькавы продкі.

-- **А ў даваенны час у вашай сям'і існавала нейкае нацыянальнае выхаванне!**

-- Нацыянальнае пытанне было настолькі забароненай тэмай, што пры дзецях пра гэта ніколі не гаварылася. Выхаванне было аддадзена на водкуп школе.

-- **А як вы думаеце, для вашага бацькі існавала нацыянальная праблема, і калі існавала, то як ён да яе ставіўся!**

-- Я думаю, што бацька ўсё разумеў правільна. Ну вось хаця б такі прыклад. Было гэта адразу пасля вайны. Для сапраўдных франтавікоў (і бацькі гэта тычылася цалкам) то быў момант духоўнага разняволення пасля сталінскіх 30-х гадоў, калі ўсе пісьменнікі былі страшна запалоханы і ўвогуле баяліся рот раскрыць, асабліва па пытаннях нацыянальнай палітыкі. Адчуўшы нейкі подых свабоды, яны палічылі неабходным сказаць пра самае надзённае і важнае для нацыі. Менавіта тады бацька сеў і напісаў артыкул па нацыянальным пытанні. Усю ноч ён пісаў, а раніцай прачытаў яго маці.

Трэба сказаць, што каля такіх, як Куляшоў, заўсёды знаходзіўся чалавек, абавязаны інфармаваць адпаведныя органы пра "образ мыслей" паэта. Мелі і мы такога "друга дома". Можа, нават і не аднаго. Не буду нічога сцвярджаць, але назаўтра Куляшова выклікалі да Панамарэнкі, які прыняў яго ветліва і вёў гутарку ні аб чым: як жыццё, якія праблемы. І ўжо на выхадзе, развітваючыся паміж падвойнымі дзвярыма, Панамарэнка сказаў бацьку: "Аркадзь Аляксандравіч, хіба ж вы не ведаеце, што самы лепшы знаўца нацыянальнага пытання ў нас Іосіф Вісарыёнавіч?"

І бацька, прыехаўшы дадому, распаліў грубку сваім артыкулам. Да вайны, зрэшты, ён зрабіў тое ж самае з нейкай сваёй п'есай, і не толькі з ёю.

-- **Вы лічыце, што пытанне роднай мовы, яе прыніжанае становішча хвалявала Аркадзя Куляшова не менш, чым іншых беларускіх пісьменнікаў!**

-- Безумоўна. Справа ж не ў выказваннях. А ў жыццёвай практыцы, а бацька не толькі сам пісаў на дасканалай беларускай мове, але засвойваў для беларусаў класіку іншых народаў, робячы выдатныя пераклады.

Наогул мне хацелася б падкрэсліць, што бацька не займаўся дэклараваннем, ён мала гаварыў і многа працаваў. Не выносіў ваколлітаратурных "тусовак", як мы сёння гаворым, хоць не быў і "хутаранінам". Калі была такая магчымасць, любіў пагаварыць з чалавекам, асоба якога яго цікавіла. За два месяцы да смерці ў гасцініцы "Масква" пасля вечара Кайсына Куліева Куляшоў прагаварыў з Давідам Кугульцінавым 21 гадзіну запар! У бацькі былі сапраўдныя сябры, і, мусіць, яны таксама паспрыялі таму, што Куляшоў адбыўся як паэт, як асобная адметная адзінка ў літаратуры. З беларусаў блізкім чалавекам бацька лічыў Панчанку, сябраваў з Лужаніным. Наогул быў сам чалавекам сціплым і з павагай ставіўся да калег, разумеў меру таленту кожнага і не патрабаваў большага, чым чалавек мог даць. І ўсё ж на Беларусі ён часта не знаходзіў разумення і блізкага духоўнага асяродка.

-- **А як вы думаеце, чаму так адбывалася!**

-- Відаць, таму, што Куляшоў быў выдатным талентам, і сярод тых, хто побач з ім працаваў, не было велічынь з такой жа сілай думкі, раскаванасці духу.

-- **А вы, Валянціна Аркадзьеўна, не баіцеся, што вас абвінавацяць у нясціпласці, у завышанай ацэнцы блізкага вам чалавека!**

-- Нехта з вялікіх сказаў, што, каб быць праўдзівым, трэба пазбавіцца ад залішняй сціпласці. А калі сур'ёзна, я лічу, што час ужо пацвердзіў маю думку. Хаця мае меркаванні наконт бацькавай геніяльнасці хтосьці можа аспрэчыць. І было б нават добра, каб у мяне знайшліся апаненты і завязалася нейкая гаворка.

Наогул жа творца такога рангу, як Куляшоў, заўсёды знаходзіцца ў складанай сітуацыі. З аднаго боку, яму зайздросцяць, з другога, не разумеюць. Дастаткова ўспомніць хаця б гісторыю з паэмай "Сцяг брыгады".

Бацька, узяўшы камандзіроўку ў армейскай газеце, прыехаў на тры дні з фронта ў Маскву да калег-пісьменнікаў з адной планшэткай, дзе ляжаў рукапіс новай паэмы. Ён пісаў яе ў зямлянцы па начах, укладваючы ў кожны радок выпакутаванае, перажытае... І сустрэў неразуменне, непрыняцце.

-- **Цяжка нават паверыць. "Сцяг брыгады" яшчэ са школьных часоў успрымаўся як твор хрэстаматыйны: салдат, рызыкуючы жыццём, ратуе воінскую святыню -- сцяг. Менавіта гэты аспект быў галоўным. І толькі праз гады прыйшло разуменне, адчуванне, што паэма больш складаная і шматгранная...**

-- Вы маеце рацыю. "Сцяг брыгады" -- гэта як сімвал Перамогі. Паэма пра годнасць нацыі, якая вядзе барацьбу з ворагам. Гэта высокамастацкая рэч, якая дае панараму жыцця народа ў экстрэмальнай для яго сітуацыі.

Я лічу, што бацьку як паэту "пашанцавала", калі 24 чэрвеня 41-га года яго не ўзялі ў перапоўненую машыну Саюза пісьменнікаў і ён пешкі прайшоў ад Мінска да Оршы. Хоць і прыйшоў ён туды з інфарктам...

-- **Мусіць лёс яму наканаваў убачыць вайну зблізку, адчуць пакуты людзей, каб расказаць пра іх...**

-- Думаю, што менавіта так: каб сказаць праўдзівае слова пра вайну. Сказаць яго з пункту гледжання вайскоўца, які прайшоў у натоўпе бежанцаў і зведаў усё, што выпала на долю цывільных людзей.

-- **Валянціна Аркадзьеўна, і ўсё ж, як сустрэлі ў Маскве Аркадзя Куляшова беларускія пісьменнікі, калі ён з'явіўся там са сваёй выпакутаванай, напісанай крывёю сэрца паэмай!**

-- Хто як. Па мерцы свайго таленту. Броўка з Глебкам, напрыклад, не ўспрынялі яе актыўна і тэмпераментна, ледзь не знішчыўшы рукапіс. "Утаймаваў" іх Кузьма Чорны, папрасіўшы слабым голасам (усё адбывалася ля ложка хворага пісьменніка): "Хлопцы, што вы робіце -- гэта ж твор вялікага таленту!"

Чорны, відаць, разумеў Куляшова прыкладна так, як і Твардоўскі, намаганнямі якога паэма тады была надрукавана. Твардоўскі, які сачыў за маладымі талентамі ў літаратуры, радаваўся іх удачам і імкнуўся падтрымаць, заўважыў Куляшова яшчэ ў 1938 годзе. Такім быў і мой бацька. Ён чакаў свайго паэтычнага нашчадка, нецярпліва ўглядаючыся ў "твары" маладых паэтаў, бо разумеў, што літаратура будзе жыць і плённа развівацца толькі пры ўмове, што нашчадкі будуць працаваць на надзейным падмурку традыцыі, закладзенай класікамі. На сённяшні дзень для нашай паэзіі гэты падмурак -- творчасць Багдановіча, Купалы, Коласа, Куляшова...

-- **Валянціна Аркадзьеўна, вы разумелі, што жывяце побач з геніяльным чалавекам! Калі вы гэта адчулі!**

-- Калі пачала ўсведамляць сябе. Бацька быў для мяне носьбітам сапраўднай паэзіі. І спачатку нават не сваёй. Ён увайшоў у маю свядомасць выканаўцам цудоўных мілагучных словапесень, якія выконваў над маёй калыскай замест матчыных калыханак. Потым я зразумела, што гэта былі вершы Лермантава, Някрасава, Шаўчэнкі...

-- **"Лясному рэху праўду раскажу..." -- гэта радок з куляшоўскага верша і назва вашай кніжкі. У вас было жаданне расказаць пра бацьку штосьці асабістае, праўду, якой ніхто не ведаў!**

-- Гэта назва не дыктавала кнігі. Яна прыйшла потым.

-- **Але назва адпавядала сутнасці таго, што вы хацелі сказаць!**

-- Я доўга шукала назву кнігі і спынілася на гэтым бацькавым ненадрукаваным радку таму, што ён адпавядаў зместу твора ў найвялікшай ступені.

-- **Кожны чалавек, а тым больш такая асоба, як Куляшоў, выклікае рознае да сябе стаўленне. У вас было жаданне, каб на яго паглядзелі вашымі вачамі!**

-- Я лічу, што кожны чалавек -- носьбіт уласнай праўды. І праўда кожнага з нас не падобна на праўду іншага. Для мяне быць аб'ектыўным у адносінах да чалавека -- гэта зразумець яго праўду, а не падыходзіць да яго са сваёй меркай. У мяне было адчуванне, што бацькава праўда не павінна загінуць для народа, бо гэта праўда яго важкай творчай спадчыны, якая фарміруе светаадчуванне народа. А каб аціхлі страсці, трэба змяніцца не аднаму пакаленню. Праз два гады пасля смерці Куляшова была ўрадавая пастанова аб выданні акадэмічнага сямітомнага збору твораў. Да гэтага часу няма нават трохтомнага. У сувязі з юбілеем сёлета ўдалося скласці толькі "Выбранае" з 30-ці аркушаў. Твораў Куляшова не знойдзеце сёння, бадай, ні ў адной кнігарні.

-- **"Мне здаецца, што з уласнага лёсу ён нічога не выкрасліў бы, -- пішаце вы ў сваёй кнізе. -- Яму няма чаго саромецца". Вакол чаго тут кіпяць страсці!**

-- Я і цяпер магу гэта паўтарыць. Куляшоў быў чалавекам надзвычай сумленным і, што галоўнае для творцы, шчырым у сваёй творчасці. Творца не павінен быць палітыкам, хаця не можа заставацца і па-за палітыкай, паколькі павінен прадбачыць будучыню і папярэджваць аб небяспецы. Тут ён, канешне, можа памыляцца і бачыць зусім іншую небяспеку, але гэта ўжо залежыць ад таленту.

Куляшова часам папракаюць у залішняй прыхільнасці да ладу, але гэта зусім не тое, што прыхільнасць да ўлады. Савецкі лад жыцця быў адзіным ладам, які ён ведаў. Нарадзіўшыся ў 1914 годзе, у 6 гадоў пачаў пісаць вершы, у 12 -- друкавацца. "Антон Шандабыла", "Крыўда", "Аманал" -- паэмы, напісаныя Куляшовым-падлеткам. Канешне, Куляшоў быў з пакалення тых, хто збіраўся адбудоўваць новае жыццё. І верш "Камуністы" -- ода ладу, які, на яго тагачасную думку, павінен перамагчы. Ён гучаў як заклік камуністаў да сумленнага жыцця, і калі верш быў надрукаваны, ён не выклікаў асаблівай прыхільнасці да Куляшова з боку ўлад.

-- **37-мы год не абмінуў і вашу сям'ю. Загінуў у сталінскіх засценках ваш сваяк паэт Платон Галавач і іншыя, а Куляшову ці не ў віну ставілася, што ён наогул застаўся тады жывы.**

-- Гэта напачатку кінуліся на ўсіх тых, хто выжыў. Валілі ўсіх у адну кучу не разбіраючыся. Нягледзячы на свой малады ўзрост, Куляшоў трапіў у спіс, што складаўся быццам бы з 13 чалавек, пачынаўся ён імёнамі Янкі Купалы і Якуба Коласа і заканчваўся Куляшовым. Сёння мы ведаем, што арышт не адбыўся дзякуючы Панамарэнку, якому ўдалося "адбіць" чарговыя ахвяры. Але перажыта бацькам было многа.

-- **І як вынік -- чатыры інфаркты...**

-- Ну, вядома. Да таго ж ён быў чалавекам надзвычай эмацыянальным і стрыманым у той жа час. І эмоцыі шукалі выйсця. Магчыма таму ў апошнія гады яму вельмі плённа працавалася на Нарачы, дзе ён жыў па 6 месяцаў. Пісьменнікі калісьці назвалі бацьку самаахвярнікам, разумеючы, што такой працай ён спальвае сваё жыццё.

Ужо цяжкахворы, ён працаваў па 16 гадзін у суткі, зачыніўшыся ў пакоі. Маці не клікала яго ні на сняданак, ні на абед, ні на вячэру. Калі па логіцы творчасці знаходзілася паўза, ён сам выходзіў з пакоя, варыў сабе яйкі і вялікі кубак кавы, зноў ішоў да сябе, піў каву і курыў. Да яго нельга было звяртацца з пытаннямі, бо ён трымаўся ў фізічным полі свайго твора. За апошнія 10 гадоў Куляшовым зроблена вельмі многа -- выдатныя пераклады, уласныя вершы, тры паэмы -- "Далёка да акіяна", "Варшаўскі шлях", "Хамуціус".

-- **Мусіць "Хамуціус" займае асобае месца і ў творчасці Куляшова, і наогул у беларускай літаратуры. Каштоўнасць, незвычайнасць паэмы не толькі ў тым, што аднаўляліся малавядомыя старонкі беларускай гісторыі!**

-- Я думаю, што многія беларускія пісьменнікі разумелі значэнне постаці і дзейнасці Кастуся Каліноўскага і звярталіся да гэтай тэмы ў сваёй творчасці. Справа ва ўласным поглядзе на тэму, у шырыні гэтага погляду. У Куляшова ў "Хамуціусе" "стэрэаскапічнае" бачанне падзей, што дае магчымасць з'яву асабістага жыцця і дзейнасці героя ўпісаць у кантэкст гістарычны і нават пашырыць яго. Другая адметнасць твора ў тым, што Куляшоў не толькі даваў новую ацэнку справы Каліноўскага, але глядзеў у будучыню. Ён пісаў, што набліжаюцца часы, калі пачнецца барацьба паміж сіламі зла і сіламі дабра. Барацьба можа працягнуцца дзесяцігоддзі, і ўсё ж дабро пераможа. Гэта быў 74-ты год. Тое, пра што ён гаварыў -- Карабах, Грузія, Абхазія, Таджыкістан, Малдова, -- пачалося значна пазней. Як сказаў Роберт Лоуэл, сапраўдны паэт -- гэта той, хто абганяе свой час, каб параўняцца з нашчадкамі.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

---

**Даўно ўжо збіраўся занесці ў рэдакцыю "Голасу Радзімы" гэты верш Станіслава Судніка "Не крыўдуй на радзіму, сынок", жанр якога вызначаны як эміграцкая калыханка. А адкрыў для сябе гэты твор у адным з леташніх нумароў беларускай газеты "Рокаш", што выдавалася ў далёкім Прыазёрску Джэзказганскай вобласці Рэспублікі Казахстан. Вельмі ўжо ўразіла "калыханка", не да сну пасля яе. Спакойна, без дэкларацый выкладзены публіцыстычны настрой верша прымушае задумацца пра многае. І найперш пра тое, што наўздзіў бестурботная і бесклапотная, калі быць патрабавальным па вялікаму рахунку, наша мілая Бацькаўшчына да сваіх сыноў і дачок па-за межамі Беларусі.**

**Але ж насоўваліся падзеі, якія нешта павінны былі істотна змяніць. Гэта і Першы сход беларусаў блізкага замежжа, і Першы з'езд беларусаў свету. Ды, на вялікі жаль, нічога так і не перамянілася. Праўда, аўтар верша падпалкоўнік Станіслаў Суднік зараз служыць на Беларусі, у далёкім ад сталіцы гарнізоне. Дзякуй Богу і за гэты дазвол. А верш -- вось ён, чытайце. Спадзяюся і на ваша, шаноўныя суайчыннікі, суперажыванне.**

**Янка НЯВОЛІН.**

**Станіслаў СУДНІК.**

### НЕ КРЫЎДУЙ НА РАДЗІМУ, СЫНОК

*(эміграцкая калыханка)*

**Сонца знікла за шэрай пустыняй,
Знічкі цьмяна ў начы зіхацяць,
Зноўку ў дальняй, чужынскай краіне,
Мой сынок, ты ідзеш спачываць.**

**Мо прысніцца табе наша поле,
Наш лясок, а за ім сенажаць,
Дзе б ты мог на ласкавым прыволлі
Бегаць, гойсаць, гуляць і скакаць.**

**Мо прысніцца табе наша рэчка,
Там, дзе рыбкі снуюць чарадой,
Ці няведамай птушкі гняздзечка
Пад старой, спарахнелай вярбой.**

**Ты скрозь сон будзеш рвацца пад шаты
Векавечных магутных дубоў,
Зразумець не здолеўшы слоў таты,
Што цябе не пускаюць дамоў.**

**Што туды ты не трапіш на лета,
Ні на дзень, ні хаця б на чуток.
Мой харошы, ты толькі за гэта
Не крыўдуй на Радзіму, сынок.**

**Наша добрая Маці-Радзіма
Моцна любіць цябе і мяне,
Моліць Бога, каб ліха гадзіна
Нас не стрэла ў чужой старане.**

**Гэта кепскія дзядзькі, што ўладу
Заграбасталі ў кіпці свае,
Напрыдумаўшы хітранькіх звадаў,
Не пускаюць дадому цябе.**

**Гэта ім мы, сыночак, чужыя,
Гэта ім перашкодзім мы жыць,
І яны, нібы злыдні ліхія,
Не жадаюць туды нас пусціць.**

**Спі, сыночак мой мілы, цудоўны,
Хай прысніцца табе лепей сон,
Што на Белай Русі стаў галоўным
Добры, ласкавы дзядзька Зянон.**

**Ён успомніць пра нас і пакліча,
І мы пойдзем яму памагаць,
А тых дзядзькаў з нялюдскім аблiччам
Мы папросім сюды адаслаць.**

**Спі, маленькі, і радуйся шчасцю
У мроях наведаць куток,
І нідзе, ні пры якіх напасцях
Не крыўдуй на Радзіму, сынок.**

**Прапаную ўвазе чытачоў "Голасу Радзімы" раздзел з новай кнігі "Апостал яднання і веры: Язэп Руцкі", якая неўзабаве выйдзе ў выдавецтве "Навука і тэхніка" ў серыі "Нашы славутыя землякі".**

**Язэп Вельямін Руцкі (1574--1637) -- ураджэнец Наваградчыны, атрымаў бліскучую адукацыю ва універсітэтах Прагі, Вюрцбурга і Рыма. Яго імя ахутана легендамі і міфамі. Вуніяцкі мітрапаліт, заснавальнік Базылянскага Ордэна, выдатны пісьменнік, педагог і прапаведнік Я.Руцкі валодаў велізарнай уладай. Ён меў сталыя кантакты з еўрапейскімі манархамі, папам рымскім, аказваў значны ўплыў на знешнюю і ўнутраную палітыку Вялікага Княства Літоўскага.**

**Аўтар.**

# ПРАЕКТ СВАЁЙ ПАТРЫЯРХІІ

Крытычны стан міжканфесійных дачыненняў, што склаўся ў Вялікім Княстве Літоўскім да сярэдзіны 20-х гадоў XYII стагоддзя, вымагаў з боку вуніяцкага мітрапаліта неардынарных, але надзвычай узважаных крокаў. Небывалая дагэтуль грамадская напруга штохвіліны магла выліцца ва ўсеагульныя забурэнні, нават рэлігійную вайну. Я.Руцкі, як ніхто іншы, усведамляў магчымасць такога павароту падзеяў. Таму ён пасля дыскусіяў на Соймах і літаратурных спрэчак, якія, вядома, мелі вялікую карысць, але не знялі ўсіх пытанняў, пачаў пошукі аптымальных шляхоў выйсця з крызісу.

Пасля працяглых і пакутлівых разважанняў мітрапаліт нарэшце прыйшоў да высновы, што міжканфесійныя дачыненні ў Княстве можна ўрэгуляваць па-сапраўднаму і назаўжды толькі праз утварэнне сваёй вялікакняскай патрыярхіі. Гэта быў адказны, рызыкоўны крок, але абставіны вымушалі зрабіць яго.

Галоўныя мэты ўтварэння патрыярхіі Я.Руцкі слушна бачыў у дасягненні кансалідацыі ўсяго шматканфесійнага ліцвінскага народа, зліквідаванні ўсялякіх падставаў для грамадскага напружання на рэлігійнай глебе, якое ўсё ж такі, трэба прызнаць, амаль заўжды, нягледзячы на дзяржаўную палітыку талеранцыі, мела месца ў нашай гісторыі.

Напачатку Руцкі меркаваў, што пад уладай вялікакняскага патрыярха павінны аб'яднацца ўсе хрысціянскія канфесіі нашай дзяржавы. Ён марыў пра замацаванне такога становішча ў царкоўным і грамадзянскім заканадаўстве. Гэта, аднак, была ідэальная схема, якую парушыла жыццё і рэальныя акалічнасці. Ад удзелу пратэстантаў у новым царкоўным хаўрусе ледзьве не адразу давялося адмовіцца, бо надта ж глыбокія былі іх разыходжанні з артадаксальнымі хрысціянскімі канфесіямі. Я.Руцкі напачатку меў цвёрды намер падпарадкаваць уладзе вялікакняскага патрыярха і ўсе структуры Каталіцкай Царквы на нашых землях, але гэтая перспектыва вымалёўвалася досыць цьмяна.

На жаль, сёння цяжка сказаць, якой ён бачыў адзіную Хрыстову Царкву Вялікага Княства Літоўскага: ці прадугледжвалася, да прыкладу, захаванне пасадаў вуніяцкага і праваслаўнага мітрапалітаў, якія змены меркавалася ажыццявіць у Каталіцкай Царкве і г.д. Мы не ведаем і мусіць ніколі не даведаемся ўсіх дэталяў першапачатковага плану Руцкага, але бясспрэчным застаецца галоўнае: выразнае імкненне дасягнуць адміністрацыйнай незалежнасці Хрыстовай Царквы Вялікага Княства Літоўскага ад Масквы, Канстанцінопаля і Рыма.

Я.Руцкі выступіў ініцыятарам заснавання новага цэнтра Хрысціянства. Нічога падобнага ў гісторыі Беларусі не было. Нават у перыяд княжання Вітаўта Вялікага (1392--1430), калі наша старажытная дзяржава знаходзілася ў кульмінацыйнай фазе свайго развіцця, утварэнне Праваслаўнай мітраполіі, незалежнай ад Масквы, але падпарадкаванай Канстанцінопалю, лічылася вяршыняй магчымага. Цяпер жа ставіліся куды больш маштабныя мэты, дасягненне якіх без сумневу ўзняло б аўтарытэт Вялікага Княства Літоўскага.

На каго ж спадзяваўся Я.Руцкі, з дапамогай якіх сілаў думаў спраўдзіць свой чарговы рэфарматарскі план? Амаль без сумневу можна сцвярджаць, што галоўную надзею ён пакладаў на Ордэн Базылянаў, які на той момант уяўляў значную сілу. Мітрапаліт, вядома, планаваў задзейнічаць і ўсе іншыя адгалінаванні падпарадкаванай яму Вуніяцкай Царквы. Ён разлічваў на дапамогу епіскапаў, усяго белага і чорнага вуніяцкага святарства. Руцкі таксама рабіў стаўку на ўплывовых урадоўцаў Вялікага Княства, найперш віленскага ваяводу Льва Сапегу, аўтарытэт якога тады быў надзвычай высокі. Папярэднія ўзаемадачыненні мітрапаліта з вялікім князем Жыгімонтам Вазам давалі яму ўсе падставы меркаваць, што той таксама падтрымае ягоны план. Урэшце, Руцкі цешыў сябе надзеяй знайсці паразуменне з праваслаўнымі іерархамі, найперш Іовам Барэцкім, Сільвестрам Косавым, Пётрам Магілаю, Мялетам Сматрыцкім і Андрэем Мужылоўскім. Але перадусім ён разлічваў на самога сябе, свой талент і сваю волю. За ягонымі плячыма быў велізарны досвед, а галоўнае, пасля паспяховага ўтварэння Ордэна Базылянаў ён верыў у сваю зорку. Надзеленаму вялікай уладай мітрапаліту здавалася, што цяпер ніхто і ніштo не зможа перашкодзіць здзейсніць задуманае.

З такімі думкамі, як потым выявілася, не пазбаўленымі значнай долі ілюзіяў, Руцкі і распачаў практычную дзейнасць па ўз'яднанні цэркваў і ўтварэнні вялікакняскай патрыярхіі.

Найперш Я.Руцкі паставіў за мэту прымірыць вуніятаў з праваслаўнымі, пераадолець тыя супярэчнасці, якія паўсталі між імі ў 1596 годзе на Берасцейскім саборы. У студзені 1624 года Я.Руцкі склікае ў сваёй Навагародскай рэзідэнцыі таемную нараду, на якую запрашае ўсіх вуніяцкіх епіскапаў: І.Мараxоўскага (уладзімірскага і берасцейскага), А.Пакосту (холмскага і бельзскага), Ерамію (луцкага і астрожскага), А.Сяляву (полацкага, віцебскага і амсціслаўскага), Р.Міхалоўскага (тураўскага і пінскага) і ўпершыню публічна абвяшчае свой план. На жаль, не захавалася звестак, як спачатку адрэагавалі епіскапы на выступ Я.Руцкага, але вынік вядомы: яны ўхвалілі задуму мітрапаліта і заявілі пра сваю гатоўнасць дзейнічаць поплеч з ім. Такім чынам, гульня паводле правілаў Я.Руцкага распачалася. Першы ход быў зроблены.

Заручыўшыся падтрымкай епіскапаў, Я.Руцкі неадкладна накіроўвае з Навагародка ў Кіеў паслоў, якім даручае паведаміць праваслаўным іерархам пра сваё жаданне прымірыцца з імі і надалей заўжды жыць у згодзе. Для правядзення папярэдніх перамоваў вуніяцкі мітрапаліт прапаноўваў прызначыць па два-тры чалавекі з абодвух бакоў, каб яны ўжо ў 1624 годзе сустрэліся. Прадмет гаворкі -- абранне свайго патрыярха і заснаванне вялікакняскай патрыярхіі, "каб яна была ўфундаваная ў нашых краях, накшталт маскоўскай, і мы не ехалі кожны раз некуды за блаславеннем". Ад патрыярхіі, паводле слоў Я.Руцкага, будзе агульная карысць для ўсіх вернікаў.

Прапановы Я.Руцкага выклікалі шок і абурэнне ў стане праваслаўных. Ні пра якое яднанне з вуніятамі праз столькі гадоў барацьбы, узаемных абвінавачванняў і крыўдаў яны не жадалі й слухаць.

Зноўку знайсці агульную мову з праваслаўнымі Я.Руцкі паспрабаваў праз два гады. Пытанне аб прымірэнні ён вынес на Варшаўскі Сойм 1626 года. У выніку пасля абмеркавання, якое суправаджалася гарачымі дыскусіямі, вялікі князь Жыгімонт Ваза падпісаў пастанову: склікаць агульны Сабор у Кобрыне 26 верасня 1626 года дзеля таго, каб вуніяты і праваслаўныя мелі магчымасць яшчэ раз між сабою "паразважаць пра царкоўную еднасць".

**Іван САВЕРЧАНКА.**

**(Працяг будзе).**



**Згадка пра гэтую падзею ў "Голасе Радзімы" была: у Вільні адкрыта мемарыяльная дошка на доме, дзе ў даваенныя гады жыў наш славуты Рыгор Шырма. Сёння да сухіх радкоў інфармацыі мы хацелі б дадаць жывое ўспрыняцце падзеі чалавекам, які прысутнічаў на тым дарагім для нашай памяці месцы і мае непасрэднае дачыненне да ўвекавечання беларускіх слядоў у сучасным Вільнюсе. Гэта мінскі скульптар Алесь Міронччык, аўтар мемарыяльнай дошкі ў гонар Рыгора Шырмы. І не толькі. Алесь Міронччык таксама стварыў знакі памяці Янку Купалу, Кастусю Каліноўскаму, Браніславу Тарашкевічу. На іх яшчэ прыйдзе час: мемарыяльныя дошкі гэтым славутым беларусам яшчэ будуць устаноўлены ў горадзе, які сёння належыць іншай дзяржаве. А пакуль -- пра тое, што звязана з Рыгорам Шырмам.**

**НА ЗДЫМКАХ: адкрыццё мемарыяльнай дошкі Рыгору Шырме ў Вільні. Выступае Хведар НЮНЬКА**



*РЭПАРТАЖ-ЭКСПРЭСІЯ*

# ВІЛЬНЯ НАЛЕЖЫЦЬ УСЁЙ ЕЎРОПЕ

20 студзеня 1994 года. Дзве гадзіны дня. Дробны, колкі снег з самае ночы без перастанку цярушыць з цяжка навіслага над Вільняй шэрага неба. Надвор'е не зусім каб прытульнае, але на вуліцы Майроніса, дзе ля нават узімку бурлівай Віліі чырвоныя, гатычна-карункавыя вежы св. Ганны, высечаная з шэрага граніту статуя Адама Міцкевіча ды магутныя муры Прачысценскае царквы ўтвараюць надзвычай адухоўленую архітэктурную прастору, сабралася багата віленчукоў. Шмат дзяцей -- навучэнцаў беларускіх класаў.

Старшыня Таварыства беларускай культуры на Літве Хведар Нюнька з уласцівай яго голасу цеплынёй распачынае ўрачыстасць з нагоды ўшанавання памяці найвыдатнейшага дзеяча беларускай культуры Рыгора Шырмы. Лёгкі павеў сцюдзёна-золкага паветра ледзь кранае льняное палатно на сцяне дома N 13. Неўзабаве тканіна спаўзае долу й перад вачыма ўсіх прысутных адкрываецца гранітная пліта з адлітым у метале партрэтам вялікага збіральніка народных песень зямлі беларускай... Высечаныя ў камяні тэксты па-літоўску і па-беларуску сведчаць: "У гэтым доме з 1928 да 1939 года жыў беларускі фалькларыст, харавы дырыжор, рэгент Прачысценскага сабору Рыгор Шырма".

Па-ранейшаму дробна сыпаў колкі снег, але атуленыя цеплынёй духоўнай еднасці віленчукі -- і беларусы, і літоўцы, што сабраліся тут цяпер, -- ужо не хуталіся з холаду. Чыстай мелодыяй беларускай мовы, зліваючыся з чутным здаля плёскатам няўрымслівае Віліі, гучалі вершы, чытаныя дзецьмі. Шчырыя прамовы і ўсхваляваныя ўспаміны людзей, у сэрцах якіх ані на імгненне не перапынялася трапяткая, жывая повязь з далёкай і блізкай мінуўшчынай свайго народа, нараджалі цяпер так нам усім патрэбнае святое сумоўе. Сумоўе не толькі між сабой, са сваімі продкамі, але і між беларусамі ды літоўцамі, агульны гістарычны лёс якіх бязлітасна быў расцяты звар'яваным дваццатым стагоддзем.

Старажытныя муры Вільні спрадвеку нітавалі нашы культуры, уздымаючы іх да вышынь еўрапейскіх і нават сусветных здабыткаў, і гэтым самым робячы здабыткам Еўропы і свету сам горад. Так, Вільня належыць усёй Еўропе, усяму свету. Дык жа ж каб сапраўды валодаць ёю, гвалтоўна-палітычнымі спосабамі рады ніхто сабе яшчэ не даў дый ніколі не дасць. "Паўночнымі Афінамі" магчыма валодаць, адно любячы ўсё чалавецтва і гэтаю любоўю поўнячы сваю працу, патрэбную ўсяму людству. Бо толькі тады плён нашага жыцця можа быць каштоўнасцю для ўсіх -- для палякаў і яўрэяў, для літоўцаў і беларусаў...

20 студзеня гэтага года на адкрыцці ў Вільні мемарыяльнай дошкі, прысвечанай Рыгору Шырме, здарылася якраз тое, што смела можна назваць праявою ў нашых народаў генія любві не толькі да сваёй супольнай гістарычнай стольні, але і да ўсяго свету. Ці ж не адметная тая акалічнасць, што постаць Рыгора Шырмы, сама памяць аб ім у той зімовы дзень сабрала пад дахам Саюза кампазітараў Літоўскай рэспублікі найзнакамітых дзеячаў культуры Літвы і Беларусі на імправізаваную, з добрым густам вечарыну. Знаная музыказнаўца Юратэ Буракайтэ, распавядаючы на гэтай вечарыне аб творчай дзейнасці нашага земляка, не магла абмінуць значнага перыяду ў гісторыі харавога мастацтва Літвы, калі віленскі кампазітар і дырыжор К.Галкоўскі, цесна супрацоўнічаючы і сябруючы з Р.Шырмам, стварыў з ім супольны літоўска-беларускі хор. У гэтым хоры гучалі ў адзінай гармоніі галасы беларусаў і літоўцаў. Спяваліся беларускія і літоўскія песні. Хор стаўся адной сям'ёй для яго ўдзельнікаў, многія з каторых між сабой звязалі нават свой асабісты лёс...

20 студзеня гэтага года, у сцюдзёны, зімовы дзень, Вільня зноў, як неаднойчы здаралася ў яе мінулым, атуліла цеплынёй адзінства ў культуры два народы. Сапраўды, незалежна ад рознасці моў культура яднае, бескультур'е раз'ядноўвае нават аднамоўных людзей. 20 студзеня гэтага года вечныя муры старажытнай Вільні аздобілі сябе яшчэ адной гранітнай плітой з надпісамі па-літоўску і па-беларуску...

**Алесь МІРОНЧЫК.**





**Звыш 11 мільёнаў прыгожых, сучасных вырабаў выпусціць у бягучым годзе Мінскі фарфоравы завод. Чайныя і кафейныя сервізы, разнастайныя талеркі, графіны для вады, дэкаратыўныя, сувенірныя і падарачныя наборы карыстаюцца попытам у пакупнікоў. Гэтаму садзейнічае і пастаянны пошук заводскімі мастакамі новых стыляў, напрамкаў, форм. Толькі ў гэтым годзе асартымент узбагаціцца дваццаццю пяццю новымі распрацоўкамі.**

**НА ЗДЫМКАХ: мастак Мінскага фарфоравага завода Леанід МАЛЫШАЎ са сваімі работамі; набор чайнікаў "Саксонскі букет" распрацаваў Леанід Багданаў.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

## КАНВЕРТ І МАРКА – ТАКСАМА ПРЫКМЕТА СУВЕРЭННАСЦІ

Да прыкмет суверэннасці і незалежнасці Беларусі Камісія Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны зусім апраўдана аднесла так званыя дзяржаўныя знакі паштовай аплаты. Гэта канверты і маркі, па якіх у краінах блізкага і асабліва далёкага замежжа робяць высновы аб дзяржаве не толькі філатэлісты. Дык вось, гэтыя самыя дзяржаўныя знакі знаходзяцца ў нас у вельмі дрэнным стане.

Як высветлілася з прадстаўленых у камісію дакладаў, у нашай рэспубліцы да цяперашняга часу не выпускаецца ўласных якасных канвертаў і марак з нацыянальным каларытам -- для гэтага проста няма паліграфічнай базы. Міністэрства сувязі і інфарматыкі, размяшчае такія заказы на Маскоўскай друкарскай фабрыцы, патраціўшы на гэта толькі ў мінулым годзе звыш 200 мільёнаў рублёў. Дарэчы, спецыяльнага падраздзялення, якое мэтанакіравана працавала б са знакамі паштовай аплаты, у гэтым міністэрстве проста няма. Як і няма рэкламы ўласных марак і канвертаў, іх абмену з замежнымі поштамі. І ўжо зусім забыліся пра філатэлістаў: ні табе кляссераў, ні табе каталогаў, ні нават пагашаных і непагашаных беларускіх марак.

Камісія прыняла рашэнне прасіць Савет Міністраў рэспублікі аб стварэнні базавага, добра аснашчанага і забяспечанага неабходнай сыравінай прадпрыемства па выпуску знакаў паштовай аплаты ў сябе дома, у Беларусі. Вырашана шырока рэкламаваць уласную паштовую прадукцыю праз сродкі масавай інфармацыі, дапамагчы Беларускаму саюзу філатэлістаў матэрыяльна і правесці ўвосень гэтага года рэспубліканскую выстаўку "Паштовыя маркі ў Беларусі".

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА.**

## АФІША 1820 ГОДА

Гісторыя беларускага тэатра папоўнілася цікавым экспанатам. У Віцебску знойдзена друкаваная тэатральная афіша, датаваная студзенем 1820 года. Да гэтага часу былі вядомы толькі афішы, надрукаваныя ў сярэдзіне мінулага стагоддзя.

Вельмі пашарпаная рэліквія паведамляе, што нейкая "кампанія мае гонар прадставіць камедыю Юльяна Нямцэвіча ў трох дзеях "Пан навіна, ці Паштовая станцыя" ў памяшканні дваранскага сходу". Цана білета на той час значная -- 15 рублёў. Мясцовыя гісторыкі па саставу трупы ўстанавілі, што на гастролі ў Віцебск прыязджала "Мінская антрэпрыза Жукоўскага", добра вядомая тады ў Беларусі.

*СПОРТ*

# АХ, СЕКУНДЫ, СЕКУНДЫ...

Вось і прыйшло на нашу вуліцу свята. Мы вельмі спадзяваліся на Ігара Жалязоўскага і на біятланістак. І спадзяванні аматараў спорту Беларусі спраўдзіліся. У скарбонцы нашай каманды два медалі, і абодва сярэбраныя.

Адкрыў лік узнагародам шасціразовы чэмпіён свету мінчанін Ігар Жалязоўскі. Магчыма яму крышачку не пашанцавала: так склалася жэрабя, што беларускаму спартсмену прыйшлося стартаваць першаму. І ад першага месца яго аддзялілі нейкія сотыя долі секунды. Прайграў жа Ігар свайму добраму сябру і "вечнаму" саперніку амерыканцу Дэну Джэксану. Вось так многія гады яны і сапернічаюць на гэтай любімай для абодвух дыстанцыі тысяча метраў, не падпускаючы і блізка іншых канькабежцаў. Вельмі шкада, што і Ігар, і Дэн хочуць пакінуць вялікі спорт. Нічога не зробіш: галоўнае для вялікіх спартсменаў, як кажуць, своечасова "саступіць дарожку" больш маладым. І тым не менш мы ўдзячныя гэтым вялікім сябрам-супернікам, колькі разоў яны радавалі нас і перамогамі, і рэкордамі на лёдзе.

Мы не дарэмна чакалі добрых вынікаў і ад нашых біятланістаў. Але ізноў гэтыя секунды. Ніводнаму спартсмену, вядома мацнейшаму, не ўдалося без промаху адстраляцца на дваццацікіламетровай дыстанцыі біятлона. А вось беларускі спартсмен Аляксандр Папоў стаў выключэннем. Але... Ужо каторы раз гэтае -- "але", гэтыя секунды. Вось каб жа Аляксандр да сваёй бездакорнай стральбы дадаў хуткасці на лыжні.

Тое ж самае хочацца сказаць і пра Святлану Парамыгіну. Мяркуйце самі: ад "золата" на дыстанцыі 7,5 кіламетра нашу спартсменку ад Мерыям Бедар (Канада) аддзяліла тое ж імгненне -- 1,1 секунды.

Што ні кажыце, другая палова Алімпіяды ў Лілехамеры прынесла трохі аптымізму беларускім аматарам спорту. Калі выйдзе гэты нумар газеты, мы будзем ужо ведаць пераможцу ў фрыстайле. Пасля першага дня на першым месцы ідзе наш зямляк Аляксей Парфянкоў. Пажадаем яму поспеху і ў фінале.

Цяжкая дарога да п'едэстала гонару. Тым больш, калі гэта дэбютанты. Разумеем, што нашы фігурысты Таццяна Наўка і Самвел Гезалян вельмі задаволены "дзесяткай", у якую яны ўвайшлі. Але ж мы бачылі іх выдатнае выступленне, і не трэба быць спецыялістам, каб адзначыць, што гэта пара заслугоўвала і больш высокага месца, як і біятланістка Ірына Какуева, якая на дыстанцыі 7,5 кіламетра замкнула шасцёрку лепшых спартсменак Гульняў.

Вядома, не абыходзіцца і без засмучэнняў. Ну, скажам, хто мог думаць, што алімпійскі чэмпіён біятланіст Яўген Рэдзькін не ўвойдзе нават у першую дваццатку, ці нашы лыжнікі, а яны ж на розыгрышы Кубка свету "глядзеліся" вельмі і вельмі някепска. Але гэта -- спорт! Гэта — барацьба! Сюрпрызаў на Алімпіядзе ў Лілехамеры вельмі многа. Адзін з іх -- паражэнне яўных фаварытаў нарвежцаў у эстафеце 4х10 кіламетраў.

Менавіта нарвежцы і расіяне спрачаюцца за агульнакамандн ае першае месца на Гульнях. А што беларусы? Ды і яны не згубіліся, як кажуць, у гэтым доўгім спісе каманд-удзельніц Алімпіяды. Пакуль яны займаюць трынаццатае месца сярод амаль што сямідзесяці зборных свету. Гэта нядрэнна для дэбютанта. Тым больш, што яшчэ наперадзе некалькі "нашых" відаў праграмы Гульняў. Будзем чакаць добрых навін.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**



**Царква ў вёсцы Крывое Сяло, што на Вілейшчыне.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ПЕЙЗАЖ XI СТАГОДДЗЯ

Нарэшце работнікі кінастудыі "Беларусьфільм" знайшлі адпаведны пейзаж для здымкаў дакументальнай стужкі па "Слову аб палку Ігаравым". Патрэбны былі мясціны, якія нагадвалі б прыроду XI стагоддзя. Зрабіць гэта было цяжка, бо тэрыторыя нашай рэспублікі вельмі ўжо "цывілізаваная".

Як толькі кінематаграфісты трапілі ў Астравецкі раён Гродзенскай вобласці, іх зацікавілі рэшткі старадаўніх вежаў каля вёскі Варняны, пералескі ля ваколіцы вёскі Быстрыцы і надзіва гарманічная прырода па берагах ракі Віліі. Адным з аргументаў за здымкі на Гродзеншчыне стала калекцыя чучалаў звяроў і птушак, сабраная Вячаславам Змітровічам у вёсцы Слабодка.

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак.266. Падпісана да друку 28. 2. 1994 г.**